Дзмітры КАВАЛЁЎ

# Сузор'е шчасця

Вось цяпер, калі на небасхіл прад вачыма
Выплыў зор навагодніх даўгі карагод,
Я жадаю з табою над нашай Айчынай,
Як у казку, адправіцца ў дальні палёт.

Перш — на Поўнач, мне блізкая даль гэтых хваляў,
Там у флоце марскім нёс я службу сваю,
Там такі акіян і такая бяскрайняя далеч,
Што адчуеш, які неабсяжны Савецкі Саюз.

А пасля праляцець над тайгою,
над стэпам сібірскім,
Там таксама бываў я, хачу, каб і ты паглядзеў
Гэты край неабдымны і гэты размах багатырскі,
І вялікія рэкі, і сопкі на горнай градзе.

На Усходзе сустрэлі мы ранак,
на Поўдні вясна нас спаткала —
У навагоднюю поўнач пакрыты ўвесь кветкамі луг...
І шырокае Чорнае мора цяжкі карабель калыхала.
І пад самым крылом праплываў гор каўказскіх
ланцуг.

І як быццам сузор'е вялікае шчасця,
Усе шаснаццаць рэспублік мы бачым ў палёце
начным.
І якія ў глыбінях і ў нетрах багацці
Залягаюць на родным прасторы зямным!

Ды сярод велізарных багаццяў і ўсіх накапленняў
Ёсць адно, што за ўсё даражэй для людзей:
Гэта Леніна думы і сонечны сталінскі геній,
Мудрасць партыі нашай і сцяг яе слаўных ідэй.

Гэта дружба народаў, што сузор'ем бліскучым
Асвятляе на тысячы вёрст змрок начы над зямлёй.
Мы яе адстаялі ў змаганнях, у бітве рашучай,
І над сталінскаю труною пакляліся мы ёй.

Хай сяброўскі наш тост будзе ўзняты сягоння
За яе, ад якой незгасальнае льецца святло.
За саюз непарушны — першы тост навагодні,
За сузор'е, якое нам шчасце дало!

Пераклад з рускай мовы М. АЎРАМЧЫКА





**Вечарам у адной з залаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя В. І. Леніна.** Злева направа: **студэнты факультэта эканомікі і гандлю Інстытута народнай гаспадаркі імя В. Куйбышэва комсамольцы А. Пашкевіч, М. Янкоўская, Н. Герус і В. Кісялёва.**

Фота А. Дзітлава.


# МАЛАДОСЦЬ

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

**№ 1(10). Студзень, 1954 год.**

Тарас ХАДКЕВІЧ

# МАЛАДОСЦЬ РАДЗІМЫ

Апоўначы пад Новы год, калі чуем звон Крэмлёўскіх курантаў, дзе-б хто з нас ні быў — за бяседным сталом ці на працоўнай вахце, у цягніку ці на пагранічнай заставе — нашы сэрцы мацней, чым звычайна, з'еднаны адзінымі пачуццямі і думамі. Позіркі нашы накіраваны туды, адкуль даносіцца гэты мелядычны звон: да сэрца краіны Советаў — Масквы, дзе на вежах старажытнага Крэмля незгасальна гараць рубінавыя зоркі, пасылаючы ва ўсе краіны свету прамені святла, цеплыні і самых шчаслівых надзей.

Яшчэ яскравей мы ўяўляем у гэты час неабсяжнасць нашай Радзімы і яе веліч. Далёка на ўсходзе, над Курыльскімі астравамі і Владзівастокам, устае сіні зімовы досвітак, а на захадзе, над аснежаным Брэстам, марозная ноч толькі-толькі ўбіраецца ў сілу. Трашчаць пад шквальным ветрам ільды Паўночнага акіяна, а на крайнім поўдні празрыстае паветра напоена пахамі нядаўна сабраных спелых цытрусаў.

Калі мы ў думках звяртаемся да Радзімы, акідваем вачыма яе карту, мы бачым, як імкліва змяняецца яе аблічча, як усюды — у гарадах, на новабудоўлях, у калгасных вёсках — кіпіць стваральная праца, квітнее жыццё, поўнае радасных падзей. У адным месцы ўступае ў строй новае прадпрыемства, у другім — рэканструіруецца і пашыраецца ранейшае, у трэцім — будуецца электрастанцыя-гігант, у чацвертым — пракладваецца сетка арашальных ці асушальных каналаў.

І гэтак усюды — ці гэта датычыцца далёкай Поўначы, дзе ажылі запалярныя, скаваныя вечнай мерзлатой землі, ці гарачага Поўдня, дзе нядаўнія пустыні ператвараюцца ў квітнеючыя палі і сады, ці нашай Беларусі з яе балотамі, ці Сібіру з яго магутнымі, неўгамоннымі рэкамі, якія цяпер усё больш і больш падпарадкоўваюцца волі совецкага чалавека, становяцца яму на службу. Ніколі ў гісторыі і нідзе на зямлі, акрамя нашай совецкай краіны, не было такога размаху і такіх тэмпаў пераўтварэння.

«Мы жывем у эпоху, калі адлегласць ад самых нечуваных фантазій да зусім рэальнай сапраўднасці скарачаецца з неверагоднай хуткасцю».

Гэтыя словы вялікага Горкага, сказаныя ім у гады першай пяцігодкі, гучаць з яшчэ большай жыццёвай сілай сёння, калі ў нашай краіне разгортваюцца новыя грандыёзныя работы, прадугледжаныя пятым пяцігадовым планам. Здзяйсненне гэтага плана наблізіць совецкі народ да яго запаветнай мэты — комунізма. Са шчырай цікавасцю і захапленнем мы сочым за ходам вялікіх будоўляў на Волзе, Дняпры, у Сібіру, у Сярэдняй Азіі, вітаем кожны новы поспех на новабудоўлях, на прадпрыемствах, у лабараторыях вучоных, на калгасных палях.

Дзе-б і што-б ні рабілася ў нас, яно робіцца ў інтарэсах народа, у імя яго сённяшняга шчаслівага жыцця і яшчэ больш шчаслівага заўтрашняга.

Такі ўжо лад жыцця ў совецкай краіне, дзе працоўны чалавек — гаспадар сваёй зямлі і свайго лёсу! Усё, што ён стварае, узбагачае яго-ж уласнае жыццё, робіць яго родную краіну яшчэ больш магутнай і непераможнай. Таму ён поўны імкнення працаваць сёння лепш і больш, чым працаваў учора, тварыць, дасягаць новых вышынь ва ўсіх галінах жыцця. Ён спакойны за сённешні дзень і ўпэўнены, што заўтрашні прынясе яму новую радасць.

Мінуў 1953 год.

Просты чалавек у капіталістычных краінах пасылае пражытаму году праклёны, бо ў ім яшчэ больш узрасла эксплуатацыя, беспрацоўе і галеча, бо ён быў годам далейшай крывавай нажывы кучкі манапалістаў за кошт працоўных, годам істэрычных пагроз падпальшчыкаў вайны па адрасу краіны Советаў і краін народнай дэмакратыі. З трывогай заглядае гэты просты чалавек капіталістычнага свету ў новы год, не чакаючы ад яго нічога добрага ва ўмовах наскрозь прагнiўшага ладу прыгнёту.

Мы-ж у сваёй соцыялістычнай краіне ўспомнім пражыты год, як новы магутны крок у сонечную будучыню, імя якой — комунізм. Успомнім заводы і фабрыкі, якія ўведзены ў строй у гэтым годзе, палацы і жылыя дамы, новыя паркі, плошчы і вуліцы, якія аздобілі нашы гарады, успомнім заваяванні працаўнікоў соцыялістычных палёў, поспехі ў галіне навукі і культуры. З гонарам скажам мы, што ў прайшоўшым годзе жылі лепш, весялей, чым у папярэднія гады.

Партыя і совецкі ўрад, праяўляючы няспынныя клопаты аб добрабыце народа, прынялі рад выключнай важнасці рашэнняў, накіраваных на далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і развіццё лёгкай і харчовай прамысловасці. Даць насельніцтву больш высокаякасных і прыгожых тавараў шырокага ўжытку, больш прадуктаў харчавання, задаволіць усё ўзрастаючыя патрэбы народа, няспынна паляпшаць бытавыя ўмовы і абслугоўванне — такія задачы ставяць апошнія рашэнні партыі і ўрада.

І мы ўжо бачым, як гэтыя рашэнні ўвасабляюцца ў жыццё. У МТС, калгасы і соўгасы едуць на пастаянную работу спецыялісты з горада, прыбываюць новыя партыі рознастайнейшых сельскагаспадарчых машын, прымаюцца ўсе меры, каб у самы бліжэйшы час крута ўзняць ураджайнасць палёў і прадуктыўнасць жывёлагадоўлі, каб сельская гаспадарка ў поўнай меры забяспечвала сыравінай лёгкую і харчовую прамысловасць, каб калгасная вёска ішла шпаркім тэмпам па шляху новага росквіту.

Побач з гэтым будуюцца новыя прадпрыемствы лёгкай і харчовай індустрыі, адкрываюцца новыя магазіны, сталовыя, рэстараны, майстэрні бытавога абслугоўвання, пашыраецца гандлёвая сетка як у гарадах, так і на сяле, на прылаўках магазінаў паяўляецца ўсё больш і больш якасных, дабротных тавараў.

Сустракаючы новы год, мы, спакойныя за сваю будучыню, без трывогі заглядаем у свой заўтрашні дзень.

Некалі, у першыя гады совецкай улады, сярод людзей старэйшага пакалення гаварылі аб комунізме, як аб далёкай мары, на ажыццяўленне якой патрэбен доўгі і доўгі час. Цяпер, калі ў нас пабудавана першая фаза комунізма — соцыялізм, мы гаворым аб комунізме, як аб рэальнасці, як аб блізкай будучыні, рысы якой ужо праяўляюцца ў штодзённых нашых справах — у вялікіх будоўлях і пераўтварэннях, у новых адносінах чалавека да працы, у няспынным росце нашага добрабыту, багацця і магутнасці краіны.

Наша совецкая краіна параўнаўча маладая па гадах. Кіпучай маладосцю, жыццесцвярджальным пафасам прасякнута яе жыццё. Яна прайшла слаўны шлях барацьбы і перамог, вытрымала сур'ёзнейшыя выпрабаванні і крочыць наперад шпарка і ўпэўнена, выклікаючы да сябе любоў і захапленне простых людзей усяго свету. З неаслабнай увагай сочаць яны за гістарычнай хадой краіны соцыялізма. Як непагасны маяк, паказвае яна ім шлях у шчаслівую будучыню чалавецтва.

Заўважаючы яе поспехі, шалеюць у бяссільнай злосці заправілы капіталістычнага свету, бразгаюць зброяй, жадаюць пагасіць зару, што ўзыйшла над светам. Але не павярнуць ім назад кола гісторыі, не выратаваць таго, што аджыло свой век і павінна саступіць месца новаму,—будучыня належыць соцыялістычнаму ладу.

З радасным хваляваннем звязваем мы наступленне новага года з асабліва дарагой і знамянальнай для нас датай — трыццаціпяцігоддзем Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Створаная Леніным і Сталіным, наша Беларусь прайшла слаўны шлях барацьбы і перамог. Сёння мы ўвачавідкі бачым пераўтвораныя ў сапраўднасць ленінскія заветы: тысячы трактараў на калгасных палях, дзе некалі калупала зямлю драўляная саха, гіганты машынабудавання, дзе ранейшай індустрыяй была фабрыка квасу, мільённыя тыражы кніг, газет і часопісаў на мове, якая калісьці лічылася афіцыйна забароненай.

Па традыцыі ў навагоднюю ноч яшчэ ярчэй зіхацяць у нашых гарадах і вёсках электрычныя агні. За гасцінна пакрытыя сталы садзяцца совецкія людзі, падводзячы рахункі зробленаму ў пражытым годзе і вызначаючы задачы году надыйшоўшаму. У прасторных клубах, на вуліцах і плошчах гарадоў весяліцца жыццерадасная моладзь.

З Новым годам, совецкая маладосць! З новым шчасцем, нашы маладыя сябры, — надзейная змена старэйшым будаўнікам комунізма!

## *Учора і сёння* СТАЛІЦЫ РЭСПУБЛІКІ

**Нашай рэспубліцы споўнілася 35 год. Былая адсталая ўскраіна царскай Расіі за гады совецкай улады ператварылася ў квітнеючую соцыялістычную дзяржаву. Можна прывесці безліч прыкладаў, якія сведчаць аб вялікіх поспехах у будаўніцтве комунізма ў нашай рэспубліцы. Ярчэй за ўсё гэта можна бачыць на прыкладзе будаўніцтва сталіцы Беларускай рэспублікі — Мінска. Аб гэтым мы і расказваем на нашых фота. Вось выгляд на былую Захар'еўскую вуліцу, як некалі называлася цэнтральная магістраль горада. На яе месцы цяпер праспект, які носіць імя І. В. Сталіна.**





Р. ДЗМІТРЫЕЎ

# НЕЎМІРУЧЫ ІЛЬІЧ



В. І. Ленін выступае з прамовай на Краснай плошчы ў Маскве (май 1919 года).
(Фотахроніка ТАСС.)

Лісток календара абведзены жалобнай рамкай... Халодны студзеньскі дзень, сагрэты гарачым полымем усенароднай любві... Дзень памяці Леніна.

Пройдуць гады, пройдуць стагоддзі, але гэты дзень журботнай памяці аб найвялікшым з людзей ніколі не будзе забыты.

Трыццаць год таму назад на Другім з'ездзе Советаў

Захліпнуўся
званочка непатрэбны шчоўк.
Перасіліў сябе
і ўстаў Калінін.
Слёзы не зжуеш
з вусоў і шчок.
Выдалі.
Блішчаць на барады кліне.
Думкі ў галаве —
цяжарам пакут.
Кроў б'е у скроні,
забілася ў вене.
— Учора
ў шэсць гадзін пяцьдзесят мінут
памёр таварыш Ленін!

Невымерная жалоба ахапіла мільёны. І совецкія людзі згуртаванымі калонамі станавіліся пад ленінскі сцяг, поўныя непахіснай рашучасці здзейсніць яго вялікія запаветы.

Партыя ў тыя незабыўныя дні заклікала народ да далейшай барацьбы, да подзвігаў, да працы ў імя перамогі комунізма.

Партыя Леніна! Ёй абавязаны народ усім, што ён зараз мае. Партыя падняла нашу Радзіму на такую вышыню, якой не дасягала ніводная краіна за ўсю гісторыю чалавецтва. Партыя прынесла нашаму народу высокі матэрыяльны добрабыт і сапраўдную культуру. Шчасце народа — вось мэта і сэнс усёй вялікай і высакароднай дзейнасці Комуністычнай партыі з першых дзён большэвіцкага падполля, калі юны Ленін згуртоўваў яе першыя рады, да сённешніх дзён, калі яна зрабілася найвялікшай сілай у гісторыі.

У партыі, у народзе — неўміручасць Леніна.

Ідуць гады. Але чым далей у мінулае адыходзіць дата смерці Леніна, тым усё больш яскравай робіцца для свету Ленінская неўміручасць. Ад кожнае гадавіны ўсё больш выразна раскрываецца перад намі веліч яго жыцця, яго ідэй.

Шмат памятных гістарычных мясцін ёсць на нашай зямлі. Іх беражліва ахоўвае наш народ, горды сваім вялікім мінулым. Але самыя дарагія, самыя свяшчэнныя мясціны для кожнага совецкага чалавека — гэта ленінскія мясціны.

Ульянаўск. Некалі ціхі прыволжскі горад Сімбірск. Радзіма Владзіміра Ільіча. Тут кожная пядзь зямлі напамінае аб маленстве і юнацтве вялікага правадыра рэволюцыі. Драўляны домік на былой Маскоўскай вуліцы зрабіўся найкаштоўнейшай рэліквіяй совецкага народа. Сюды штодня прыходзяць людзі, якія прыехалі з Запаляр'я і Каўказа, з Камчаткі і Беларусі, з усіх куткоў нашай неабсяжнай Радзімы.

Шмат якія запісы ў кнізе ўражанняў наведвальнікаў пачынаюцца словамі: «Я шчаслівы, здзейснілася мая запаветная мара...»

Сястра і брат Владзіміра Ільіча дапамаглі арганізатарам дома-музея аднавіць абстаноўку кватэры Ульянавых да найдрабнейшых дэталей. Пераступіўшы парог гэтага дома, адразу трапляеш у атмасферу простага і высакароднага жыцця выдатнай рускай сям'і Ульянавых.

Маладыя наведвальнікі дома-музея — а іх больш за ўсіх — з асаблівым хваляваннем падымаюцца па крутой лесвіцы на антрэсолі і ўваходзяць у невялічкі пакой, дзе жыў гімназіст Валодзя Ульянаў. Жалезны ложак з белым пакрывалам, столік, пакрыты цыратай, два крэслы — вось і ўся абстаноўка. За шклом вітрыны экспануюцца школьныя сшыткі, табелі паспяховасці, пахвальныя граматы. У характарыстыцы, якая выдадзена Владзіміру Ульянаву дырэктарам Сімбірскай гімназіі, гаворыцца:

«...Вельмі таленавіты, пастаянна старанны і акуратны. Ульянаў ва ўсіх класах быў першым вучнем і пры сканчэнні курса ўзнагароджаны залатым медалем, як самы дастойны па паспяховасці, развіццю і паводзінах...» У пакоі на сцяне — самаробная паліца. На ёй — кнігі: «Запіскі паляўнічага», «Спартак», творы Дабралюбава і іншыя.

Ва ўсіх пакоях дома Ульянавых многа кніг — у кабінеце бацькі, і ў пакоі маці, і ў пакоях брата і сясцёр.

Ад ранняга маленства праз усё жыццё кнігі былі спадарожнікамі Владзіміра Ільіча.

Маленькі пакойчык у доме № 4/7 у былым Вялікім Казачым завулку ў С.-Пецербургу, а зараз завулку імя Ільіча горада Ленінграда. Гэта першая кватэра Леніна ў Пецербургу. Тут В. І. Ленін жыў у 1894 — 95 гг. Ён прыехаў сюды маладым памочнікам прысяжнага паверанага. У гэтай сціплай кватэры пры святле газоўкі малады Ленін пісаў сваю працу «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супраць соцыял-дэмакратаў». У пакоі шмат кніг. Кнігі на стале, на падваконніку. Сярод іх — тоўстыя тамы часопіса «Рускае багацце» з артыкуламі Міхайлоўскага, гэтак востра раскрытыкаванымі Леніным.

У горадзе імя Леніна з першых рэволюцыйных рабочых гурткоў нарадзілася магутная партыя, якая зараз стаіць на чале ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Тут кожны камень
Леніна знае
Па гулу
першых
кастрычніцкіх атак.

Апошняя кватэра Леніна ў Петраградзе — пакой на другім паверсе ў Смольным. У памяці паўстаюць першыя дні маладой Совецкай



З карціны мастака П. Белавусава «Владзімір Ільіч Ленін сярод дэлегатаў III з'езда ВЛКСМ».

## З прамовы В. І. Леніна на III Усерасійскім з'ездзе Расійскага Камуністычнага Саюза Моладзі

... Камуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданнем усіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва.

... Перад вамі задача будаўніцтва, і вы яе можаце вырашыць, толькі авалодаўшы ўсімі сучаснымі ведамі, умеючы ператварыць камунізм з гатовых завучаных формул, парад, рэцэптаў, прадпісанняў, праграм у тое жывое, што аб'ядноўвае вашу непасрэдную работу, ператварыць камунізм у кіраўніцтва для вашай практычнай работы...

... Мы павінны ўсякую працу, якой-бы яна ні была бруднай і цяжкай, пабудаваць так, каб кожны рабочы і селянін глядзеў на сябе так: я — частка вялікай арміі свабоднай працы і здолею сам пабудаваць сваё жыццё без памешчыкаў і капіталістаў, здолею ўстанавіць камуністычны парадак. Трэба, каб Камуністычны Саюз Моладзі выхоўваў усіх з маладых гадоў у свядомай і дысцыплінаванай працы.

дзяржавы. Тут нараджаліся першыя дэкрэты Савецкай улады. Разам са сваім саратнікам І. В. Сталіным Уладзімір Ільіч падпісаў тут такі гістарычны дакумент, як «Дэкларацыя правоў працоўнага і эксплуатуемага народа».

Вакол Смольнага шуміць вялізны горад, які носіць ленінскае імя. Сённяшні Ленінград з яго заводамі і фабрыкамі, у цэхах якіх працуюць праслаўленыя наватары вытворчасці, з яго інстытутамі, у якіх натхнёна працуюць выдатныя вучоныя, з яго палацамі культуры і тэатрамі, на сцэнах якіх выступаюць слаўтыя дзеячы мастацтва, з яго новымі шырокімі праспектамі, збудаванымі цудоўнымі дамамі, — увесь гэты горад з'ўляецца неўміручым помнікам Ільічу.

Ленін усё прадбачыў: зыход барацьбы і паражэнне ворагаў, таржаство соцыялізма, індустрыяльнае пераўтварэнне краіны, нараджэнне новага чалавека з новай мараллю, з новымі адносінамі да працы.

На ўскраіне падмаскоўнай вёскі Горкі-Ленінскія стаіць невялікі дом. На яго фасадзе прымацавана мармуровая дошка з надпісам: «В. І. Ленін выступаў у гэтым доме 9-га студзеня 1921 года на сходзе сялян вёскі Горкі». У той час гэта была жабрацкая вёска з нізкімі хацінамі, якія ўраслі ў зямлю. У незабыўны студзеньскі дзень сяляне сабраліся ў хаце Васіля Шульгіна. Яшчэ жывуць людзі, якія памятаюць выступленне Леніна. Ільіч вучыў, як трэба будаваць новае жыццё, гаварыў аб электрыфікацыі краіны, аб машынах, якія заменяць дзедаўскую саху.

Калі пад'язджаеш сёння да Горак, дык першае, што бачыш, — гэта стройныя мачты высокавольтных перадач. Ужо шмат год у вёсцы Горкі-Ленінскія калгаса імя В. І. Леніна электрычнасць замяніла не толькі газоўку, але і цяжкую працу чалавека на палях, у майстэрнях, на гумне. Электраматоры працуюць у кузні, гоняць ваду для сельскага вадаправода і для дажджавых установак на гародах, малоцяць хлеб, рэжуць салому, ачышчаюць зерне.

Антэны радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў узвышаюцца над жалезнымі дахамі амаль кожнага дома. Вялікія змены адбыліся на падмаскоўнай зямлі, як і ўсюды ў нашай краіне. Заможна і шчасліва жывуць калгаснікі вёскі Горкі-Ленінскія. Высокія ўраджаі дае ім зямля, якая апрацоўваецца высокапрадукцыйнымі машынамі. Акрамя пшаніцы, калгас вырошчвае дыні і кавуны, розную садавіну. На арцельных фермах стаіць пародзістая высокапрадуктыўная жывёла. Жыхары некалі жабрацкай вёскі зараз складаюць моцны калектыў калгаса-мільянера.

Па суседству з гэтай вёскай у старым парку бачны дом з белымі калонамі, дзе жыў і працаваў у апошнія дні В. І. Ленін. Пасяліўся ён тут па патрабаванню ўрачоў, але і ў час хваробы ён прадаўжаў адсюль кіраваць партыяй і дзяржавай. За шклом вітрын у доме-музеі захоўваюцца старонкі ленінскіх твораў і мноства дзелавых запісак, накіданых хуткім, імклівым почаркам. Сярод іх — гістарычнае пісьмо аб электрыфікацыі, адрасаванае Г. М. Кржыжаноўскаму, будучаму старшыні камісіі ГОЭЛРО.

Восьмы Усерасійскі з'езд Саветаў сабраўся 22 снежня 1920 года ў Вялікім тэатры Масквы. Яшчэ не скончылася грамадзянская вайна. Абледзянелі станкі ў цэхах маўклівых заводаў. Панавала разруха, голад, холад. А на сцэне Вялікага тэатра вісела вялізная карта электрыфікацыі краіны з рознакаляровымі электрычнымі лямпачкамі. Таварыш Кржыжаноўскі дакладваў з'езду аб дзяржаўным плане электрыфікацыі РСФСР. І па ходу яго даклада адна за другой запальваліся зялёныя, сінія, чырвоныя, жоўтыя лямпачкі.

Звяртаючыся да дэлегатаў з'езда, Ленін выказаў тады славутую формулу камунізма: «Камунізм — гэта ёсць Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны».

Ішлі гады. Запальваліся ўжо не на карце, а на бяскрайніх прасторах нашай Радзімы электрычныя агні. Ад краю да краю разлілося па ўсёй краіне незгасальнае святло. Зараз у нас штомесяц выпрацоўваецца электраэнергіі прыкладна столькі, колькі выраблялі ўсе станцыі дарэвалюцыйнай Расіі за пяць год. Пройдзе некаторы час, і пачнуць даваць ток гігантскія электрастанцыі на Волзе ля Куйбышэва і Сталінграда, на Дняпры ў Кахоўцы. І па правадах высокавольтнай лініі, якая праходзіць цераз горад, дзе нарадзіўся В. І. Ленін, ад берагоў Волгі пацячэ электрычны ток да сталіцы нашай Радзімы — Масквы. Так савецкі народ ажыццяўляе мару Леніна аб тым, каб Расія стала «электрычнай».

В. І. Ленін некалі марыў пра сто тысяч трактараў. Зараз уся наша краіна пакрылася густой сеткай машынна-трактарных станцый. І няма цяпер у нас такога калгаса, на палях якога не працавалі-б трактары і другія сельскагаспадарчыя машыны.




Музей В. І. Леніна ў Маскве.
Фота Я. Халіпа.

Ленін пісаў, што «...Комунізм пачынаецца там, дзе паяўляюцца самаадданыя, пераадольваючыя цяжкую працу, клопаты радавых рабочых аб павелічэнні прадукцыйнасці працы, аб ахове кожнага пуда хлеба, вугалю, жалеза і іншых прадуктаў, якія дастаюцца не працуючым асабіста і не іх «бліжнім», а «дальнім», г. зн. усяму грамадству ў цэлым, дзесяткам і сотням мільёнаў людзей, аб'едналых спачатку ў адну соцыялістычную дзяржаву, потым у Саюз Савецкіх рэспублік».

Сёння дзесяткі і сотні тысяч савецкіх рабочых апрацоўваюць метал скараснымі метадамі, хутка вараць сталь, перавыконваюць нормы, эканомяць сыравіну і матэрыялы. У іх штодзённай працы і творчых пошуках, у іх клопатах аб усенародным добрабыце жывуць ленінскія думкі, ленінскія запаветы.

Звяртаючыся да моладзі, В. І. Ленін гаварыў «...пакаленне, якому зараз 15 гадоў, яно і ўбачыць комуністычнае грамадства і само будзе будаваць гэтае грамадства.

І яно павінна ведаць, што ўся задача яго жыцця ёсць будаўніцтва гэтага грамадства».

Гэта было сказана на з'ездзе комсамола ў 1920 годзе. Юнакі і дзяўчаты, да якіх трыццаць тры гады назад звяртаўся Ільіч, сёння—людзі ў росквіце сіл. Людзі гэтага пакалення робяць справы вялікага размаху. І гэтыя людзі—сталявары і агрaномы, вучоныя і калгаснікі, ткачы і настаўнікі — і ў хвіліну роздуму над вырашэннем цяжкай задачы, і ў радасны час яе здзяйснення зноў і зноў разгортваюць тамы ленінскіх твораў, прыходзяць ва ўрачыстыя і светлыя залы музея В. І. Леніна, каб пачэрпнуць думкі з жывой і невычэрпнай крыніцы ленінскай мудрасці.

У адной з залаў гэтага музея стаіць вялікі глобус. На ім бліскучымі кропкамі азначаны краіны свету, дзе выдадзены творы В. І. Леніна і І. В. Сталіна. Кнігі Леніна і кнігі пра Леніна друкаваліся і друкуюцца ва ўсіх кутках свету. Яны выдадзены на малайскай, в'етнамскай, партугальскай, арабскай мовах, на мовах урду, гурмакхі — на 117 мовах свету.

Вывучэнне ленінскіх прац натхняе народы на барацьбу за светлую будучыню. І ўжо не насельніцтва адной шостай часткі планеты, а трэцяя частка чалавецтва — звыш 800 мільёнаў чалавек — вызвалены з капіталістычнай няволі. Поруч з намі будуюць новае жыццё краіны народнай дэмакратыі, вялікі Кітай, гераічная Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка, змагаецца і перамагае В'етнам. Гарыць пад нагамі каланізатараў зямля Інданезіі. Пашыраецца міжнародны фронт барацьбы за мір, дэмакратыю і свабоду. Неўміручая справа Леніна незгасальным святлом азарае чалавецтву шлях у вякі.

«Дыханне вялікага чалавека мы адчуваем, чуем усюды, на ўсёй планеце» — так выказаў у сваім запісу пры наведванні Ленінскага музея думкі мільёнаў простых людзей свету выдатны кітайскі вучоны і грамадскі дзеяч Го Мо-жо.

У Цэнтральным музеі В. І. Леніна ўжо шмат год пішацца кніга на ўсіх мовах свету. І няма і ніколі не будзе ёй канца.

«Гісторыя жыцця Леніна — гэта новая эра ў жыцці чалавецтва. Мы ідзем за ім таму, што для нас, прыгнечаных народаў, ленінізм — гэта факел свабоды», — піша індус.

Дэлегацыя жанчын Албаніі пакінула ў кнізе такі запіс: «Ленін — вялікі і неўміручы, як і народы. Жыццё, дзейнасць, ідэі Леніна натхняюць усіх людзей добрай волі на барацьбу за свабоднае жыццё, за мір...»

«Наведванне музея вялікага Леніна — правадыра ўсяго чалавецтва — адкрыла нам вочы на многае. Мы будзем вывучаць працы Леніна аб будаўніцтве соцыялізма, змагацца з ворагамі працоўных так, як указваў Ленін»,— запісала дэлегацыя студэнтаў Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі.

Так, у гэтым чырвонакаменным будынку, што размешчаны ў самым цэнтры савецкай сталіцы, ідзе пераклічка людзей усіх узростаў і ўсіх колераў скуры. Жыццё пацвярджае прароцкія ленінскія словы аб тым, што шлях наш верны, таму што гэта — шлях, да якога рана ці позна немінуча прыдуць і другія краіны.

Масква. Красная плошча. Ля маўзалея В. І. Леніна і І. В. Сталіна (снежань 1953 года).
Фота Я. Румкіна.



...Студзень 1954 года. Падбадзёрваючы мароз. Лёгкія хмаркі плывуць па небе. Халодныя промні зімовага сонца гараць на рубінавых крэмлёўскіх зорах, адлюстроўваюцца на чорным лабрадоры і чырвоным граніце маўзалея ля Крэмлёўскай сцяны. Над уваходам у гэтую святыню два бясконца дарагія словы: ЛЕНІН — СТАЛІН.

Урачыста застыла ганаровая варта ля ўваходу ў маўзалей.

З-за Аляксандраўскага саду ўздоўж Крэмлёўскай сцяны рухаецца бясконцая калона людзей. Яны прышлі да Леніна і Сталіна.

У пачцівым маўчанні, з непакрытымі галовамі праходзяць людзі па жалобнай зале, пасярод якой узвышаюцца два саркафагі, прыкрытыя амаль непрыкметным шклом. Лёгкае святло падае аднекуль зверху. Людзі ідуць ціха, нібыта баяцца неасцярожным рухам ці словам разбудзіць тых, што спяць. Пільна ўглядаюцца яны ў твары тых, хто належыць вечнасці, хто зазірнуў у будучыню і ўказаў шлях да комунізма.

Цячэ людскі паток цераз Красную плошчу. Усё вышэй узнімаецца сонца над сівымі сценамі Крэмля. Чырвоны сцяг пераможна лунае ў небе над купалам будынка Вярхоўнага Совета СССР.

Людзі ідуць цераз Красную плошчу, і многія з іх у думках паўтараюць словы выдатнага савецкага паэта:

Стала
найвялікшым
комуністам-арганізатарам
нават
сама
Ільічова смерць.

Мікола АРОЧКА

## Падарунак

Я ўспамінаю свой калгас,
Зімовы вечар ціхі,
Калі збіраліся да нас
За працаю ткачыхі.

А іх занятак — не сакрэт,
Усе вяскоўцы зналі:
Ткачыхі Леніна партрэт
Да позняй ночы ткалі.

Быў пад рукамі ў іх не шоўк,
А просты, каляровы
Па густу выбраны уток
І тонкая аснова.

Я назіраў, як з-пад рукі
Партрэт любімы тчэцца,
Праўдзівы і ва ўсім такі,
Які жыве ў іх сэрцах.

Ткачых калгасных пачуццё
Важней за ўток шаўковы...
Само шчаслівае жыццё
Для працы іх — аснова.

Прыгожа вытканы партрэт,
Нібы любві заруку,
Нядаўна я ў Маскве сустрэў
Між іншых падарункаў.

І я успомніў свой калгас,
Зімовы вечар ціхі,
Калі збіраліся да нас
Калгасныя ткачыхі.

Валянцін РЭЧМЕДЗІН

# НАВЕК РАЗАМ

Пісьмо з Пераяслаў-Хмельніцкага

Вестка пра тое, што ў нядзелю маюць прыехаць дарагія госці — калгаснікі Мажайскага раёна Маскоўскай вобласці, радасна ўсхвалявала калгаснікаў-пераяслаўцаў. У сёлах, раскінутых па-над Дняпром, толькі і размоў было і клопату, як спаткаць родных сэрцу таварышаў, чым пачаставаць ды што паказаць.

Найслаўнейшай калгасніцы Украіны Алене Сямёнаўне Хобце даручылі выпечы той традыцыйны хлеб-каравай, без якога не абыходзіцца ніводная сустрэча ў славянскіх народаў. Пакуль у праўленнях калгасаў падрыхтоўвалі, удакладнялі, па колькі цэнтнераў на кожным гектары ўрадзіла пшаніцы, буракоў ды бульбы і колькі літраў малака даюць каровы, жанчыны жвава наводзілі парадак і ў грамадскіх памяшканнях, і на фермах, і ў сваіх хатах. Не для таго, каб уразіць гасцей нарачытым бляскам, а па імкненню сэрца, бо неяк не прынята вітаць гасцей па-будзённаму. Маладзіцы і дзяўчаты падводзілі вясёлымі фарбамі прыпечкі ў хаце ды прызбы каля хаты



Багдан Хмельніцкі.

і перабіралі ў скрынях квяцістыя вышываныя сарочкі і шаўковыя сукенкі, каб найпрыгажэй прыбрацца да прыезду гасцей.

Усё гэта рабілася ўрачыста. Калі ўлетку першая дэлегацыя калгаснікаў Пераяслаў-Хмельніцкага раёна наведала Мажайскі раён, дык пасланцы з Украіны адчулі ў сэрцах рускіх братоў такую бязмежную шчырасць, убачылі ў іх жыцці такую вялікую яснасць, што цяпер хацелася выкласці перад імі ўсе скарбы сваёй душы і ўвесь багаты плён сваёй працы.

Марыя Гальчук, чароўная дзяўчына-пераяслаўка, аб сэрцы і працоўнай славе якой мажайцы носяць высокую думку, апавядала сяброўкам пра свае ўражанні з летняга падарожжа па калгасах падмаскоўя.

— Выйшлі з вагона на станцыі Мажайск, а там людзей-людзей... Грае музыка, усюды поўна кветак. Нашу Алену Сямёнаўну проста завалілі кветкамі. Нейкая цётка абняла яе і тры разы пацалавала. А тут і мяне з усіх бакоў абступілі дзяўчаты, кладуць на бярэмя кветкі, цалуюцца, вітаюцца...

Селі ў машыны — хто ў аўтобусы, хто ў «Пабеду» — і паімчаліся спачатку вуліцамі Мажайска, а потым полем у любыя нашаму сялянскаму сэрцу калгасы.

... Выехалі на невялічкі ўзгорачак і пабачылі шырокае-шырокае поле. Куды ні кінеш вокам — да небакраю жыта ўрадлівае хвалюецца, як мора, а пасярод яго, як астраўкі, сёлы. Спыніліся машыны, вышлі мы і любуемся наваколлем. Сакратар Мажайскага райкома партыі таварыш Капылоў сказаў:

— Тут, на гэтым месцы, таварышы украінцы, сто сорак год таму назад наш народ даў рашучы адпор напалеонаўскім полчышчам, якія хацелі нас заняволіць. Гэта — Барадзінскае поле.

...На помніках я чытала назвы палкоў: Чарнігаўскі, Палтаўскі, Жытомірскі і думала пра сваіх землякоў, якія стаялі насмерць за маці-Маскву, за Расію, за Украіну. І ўспаміналіа тых, хто спачыў увосень 1943 года, вызваляючы наш Пераяслаў-Хмельніцкі і Дняпро ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод іх нямала сыноў Расіі. Навек у сэрцах пераяслаўцаў захоўваюцца імёны тых, хто прынёс вызваленне Пераяславу, — рускіх таварышаў гвардыі старшага лейтэнанта Міхайлава, гвардыі палкоўніка Анучына, гвардыі капітана Арлова, гвардыі генерал-маёра Іваноўскага, імёны Герояў Совецкага Саюза Піскпова, Луначкіна, Арлова.

...Над Барадзінскім полем звінеў жаваранак, і задуменна шапацелі каласкі на бязмежным палетку, спяваючы вечную славу спачыўшым братам...

— А потым нам паказвалі калгасы і соўгасы сваё квітнеючае, багатае жыццё. Скажу вам, сяброўкі, — ёсць чаму павучыцца. Я ў жыцці не бачыла такой жывёлы, як у соўгасе «Малочны гігант». Вось дык гаспадарка! Усё жыццё буду марыць аб такой. Умеюць там даглядаць каровак. Шмат карыснага я даведалася ад даяркі калгаса імя Леніна Марыі Балакіравай, якая за шэсць месяцаў надаіла 2 250 літраў малака ад кожнай фуражнай каровы. Пра ўсё яна мне апавядала: і як гадаваць жывёлу, і як дасягнуць лепшага ўдою.

... А старшыня перадавога украінскага калгаса імя Молатава таварыш Шульга расказаў сваім аднавяскоўцам пра тое, як у падмаскоўным калгасе «Майская раніца» вырошчваюць багаты ўраджай пшаніцы-азімкі. Яму ўсе «сакрэты» расказаў брыгадзір паляводчай брыгады Дзмітракоў, які сабраў па 43 цэнтнеры азімкі з кожнага гектара.

— Пра ўсё мне расказваў таварыш Дзмітракоў, — прызнаўся Шульга. — Як брат брату. Шмат новага, карыснага пачэрпнуў я з паездкі.

Дружна працуюць калгаснікі Мажайскага раёна, дружна і самаадданна, і гэта асабліва кінулася ў вочы пераяслаўцам. Дружная і самаадданая работа — крыніца заможнага і культурнага жыцця.

Калі падпісвалі дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва між калгаснікамі Мажайскага і Пераяслаў-Хмельніцкага раёнаў, пераяслаўцы адкрыта прызналіся, што будуць усімі сіламі дабівацца пяршынства ў соцыялістычным змаганні, але пры адной умове, што сябры-мажайцы дапамогуць парадамі і шматгадовым вопытам барацьбы за квітнеючае, заможнае жыццё калгаснікаў, за моцную высокаарганізаваную арцельную гаспадарку.

— Прыязджайце да нас, дарагія сябры! — запрашалі мажайцаў старшыня калгаса імя Молатава таварыш Шульга і Алена Сямёнаўна Хобта.

— Прыязджайце ў любую пару года, прывітаем, як найраднейшых! — далучала свой голас Марыя Гальчук.

І вось крылатая вестка ляцела сёламі: едуць госці, едуць мажайскія таварышы!

Вырашылі сустракаць на векапомным месцы: на плошчы, дзе трыста год таму назад украінскі народ на чале з Багданам Хмельніцкім вітаў сыноў рускага народа, маскоўскіх паслоў. Няхай калгаснае пасольства прыдзе да нас тым-жа слаўным шляхам, як прышлі трыста год таму назад пасланцы дружбы і паратунку! Няхай адчуюць рускія сябры, якой удзячнасцю напоўнены сэрцы украінцаў, як яны шануюць сваю запаветную дружбу з Расіяй, з Масквою, няхай пабачаць, што трыста год прайшло не марна!

Усе, усе на Украіне разумеюць, што каб не воля братніх народаў з'еднацца разам навек, то замест гэтай квітнеючай зямлі, на якой і пшаніца каласуе, і дзявочая песня льецца, і дзіцячы смех звініць, была-б чорная пустэча, вытаптаная ордамі, было-б мёртвае бязлюддзе, і толькі крумкач каркаў-бы над руінамі і папялішчамі.

... Знатныя людзі Пераяслаў-Хмельніцкага раёна збіраліся на слаўнай плошчы, якая была сведкай найвялікшай падзеі ў гісторыі братніх народаў.

Мажайцаў сустракалі звеннявая Герой Соцыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Совета УССР Алена Сямёнаўна Хобта, даярка Марыя Гальчук, старшыня памокліўскага калгаса імя Молатава таварыш Шульга брыгадзір на будаўніцтве Пераяслава Волька Ярмоленка, старшыня выканкома гарадскога Совета Георгі Ігнатавіч Іжэля, галоўны архітэктар горада Уладзімір Гурскі, муляры-будаўнікі горада Іосіф Кавалёў і Аляксандр Філіпкоў



**Вызваляюцца ад рыштаванняў дамы на Цэнтральнай плошчы горада Пераяслаў-Хмельніцкі.** На здымку (злева направа): **дом Советаў, гасцініца.**

Фота В. Беразоўскага.

і шмат-шмат людзей, якімі славіцца пераяслаўская зямля.

Не званілі малінава званы ў саборах, не грымелі мушкетныя залпы, не чутно было тулумбасаў і кобзаў, калі ў глыбіні вуліцы з'явілася пасольства рускіх калгаснікаў. Затое прывітальна зайгралі медныя трубы аркестра раённага Палаца культуры і радасна забіліся людскія сэрцы. А песня сэрца заўсёды напоўнена найшчырэйшымі, найцяплейшымі прывітаннямі!

Алена Сямёнаўна Хобта выйшла наперад і, пакланіўшыся, падала на вышываным рушніку хлеб-соль — каравай, выпечаны з найбялейшай мукі.

А госці, вышаўшы з машын, таксама пакланіліся ўсёй грамадзе і кінуліся ў абдымкі да братоў.

Хлеб-соль прыняла звеннявая калгаса «Барадзіно» Мажайскага раёна Герой Сацыялістычнай Працы Агаф'я Пятроўна Ермакова. Яна пацалавала ясны, як сонца, бохан, перадала яго сваім таварышам і моцна абнялася з Аленай Сямёнаўнай.

Чуваць былі палымяныя словы ўзаемных прывітанняў. Віншуючы дарагіх гасцей, сакратар Пераяслаў-Хмельніцкага райкома КПУ таварыш Асадчы сказаў:

— Наша сустрэча адбываецца напярэдадні вялікага свята вялікіх народаў — трохсотгоддзя ўз'еднання Украіны з Расіяй. Мы гордыя тым, што спаборніцтва між нашымі раёнамі замацоўвае творчыя сувязі між украінцамі і рускімі.

А сакратар Мажайскага райкома партыі таварыш Капылоў, перадаючы пераяслаўцам шчырае братэрскае прывітанне, сказаў, што мажайцы з глыбокімі пачуццямі пашаны і любві ступілі на зямлю, дзе трыста гадоў таму назад адбылася велічная падзея брацкага з'еднання адзінакроўных народаў.

Потым святочным натоўпам ішлі вуліцамі Пераяслаў-Хмельніцкага, разглядаючы горад, якому даўно пайшло на другую тысячу з дня яго існавання і які ў сучасны момант знаходзіцца ў стадыі адбудовы.

Пераяслаў быў горадам-абаронцам Кіеўскай Русі ад дзікіх орд стэпавых вандроўнікаў, пільным вартаўніком вялікага шляху з «варагаў у грэкі». Ён узнімаў свае вежы, свае бастыёны над бязмежным полем, і аб яго сцены, аб мужнасць яго грамадзян разбіваліся навалы печанегаў, полаўцаў, хазар. І навек слаўны старарускі віцязь, вялікі грамадзянін Пераяслава — Мікіта Кажамяка, які ў адзінаборстве перамог печанежскага асілка. Пераяслаўцы хадзілі з алегавымі дружынамі аж да сцен Царграда, вешалі на яго браме свае чырвоныя шчыты. Пераяслаўцы здабывалі славу маладой Русі ў легендарных святаслававых паходах. І доўга яшчэ памнажаць-бы славу пераяслаўскім людзям, калі-б не страшэннае ліха варожага нашэсця, калі-б не векавое ярмо татара-мангольскай крывавай навалы. Мужныя пераяслаўскія воіны ўзнялі сваю зброю ў 1139 годзе, калі па ўсім стэпу паўзла брудная батыева арда. Яны храбра біліся з жорсткімі захопнікамі і палеглі ўсе да аднаго ў бойцы. Усе вякі пад ігам горад ляжаў у руінах. Не чуваць было ў ім людскога голасу, і толькі вецер гойсаў над бур'янішчам.

Адраджацца пачаў Пераяслаў у пачатку 1600 года, калі з правабярэжнай Украіны, з-пад ярма польскіх акупантаў пачалі ўцякаць людзі — бліжэй да Расіі, пад абарону вялікай маткі славянскіх народаў. Яны засяляліся на руінах, забудоўвалі месца дамамі. Напярэдадні векапомнай Пераяслаўскай Рады тут ужо квітнеў вялікі горад, а яго жыхары прадаўжалі слаўныя традыцыі сваіх далёкіх дзядоў і прадзедаў — будаваліся і гераічна змагаліся за волю народа.

Тут узняў сцягі першага вызваленчага паўстання гетман Остраніца, тут жорстка пакараў польска-нямецкіх захопнікаў казацкі палкоўнік Тарас Федаровіч, празваны народам — Трасілам, Тарасам Трасілам.



**Знатная звеннявая арцелі імя Шэўчэнкі Пераяслаў-Хмельніцкага раёна Кіеўскай вобласці Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета УССР Алена Сямёнаўна Хобта штодзённа атрымлівае шмат пісем з многіх гарадоў і сёл Савецкага Саюза.** На здымку: **Алена Сямёнаўна Хобта ў сябе дома адказвае на пісьмы.**

Тут нарадзіўся і спеў дзяржаўны геній чалавека, які ўвабраў у сябе свяшчэнную волю народа да ўз'еднання з братняй Расіяй, — тут нарадзіўся і пайшоў шляхам вялікай славы Багдан Хмяльніцкі. Тут працаваў выдатны украінскі мысліцель і паэт Грыгорый Скаварада. Тут натхнёна звінела неўміручая кобза Тараса, які, будучы ў Пераяславе ў свайго сябралекара Казачкоўскага, стварыў свой палымяны «Запавіт»...

Высокародныя парывы пераяслаўскіх грамадзян заўсёды былі адданы Радзіме, заўсёды былі напоўнены вернасцю сваім родным братам. Тысячы іх аддалі сваё жыццё за маладую савецкую ўладу, пайшоўшы шляхам Кастрычніка на франты грамадзянскай вайны. Тысячы пераяслаўцаў гераічна змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскіх атрадах.

Пра ўсё гэта даведаліся пасланцы калгаснага Падмаскоўя, гасцюючы ў сваіх сяброў і братоў — калгаснікаў Пераяслаўшчыны. Яны пазнаёміліся з жыццём працаўнікоў калгасных палёў, пабачылі, як пераяслаўцы шчырым сэрцам успрынялі пастанову ЦК Камуністычнай партыі аб новым магутным уздыме сельскай гаспадаркі. Яны пабачылі, што пераяслаўцы — нястомныя працаўнікі, якім не страшны ніякія цяжкасці на шляху да запаветнай мэты.

...На прасторах Пераяслаўшчыны ідзе вялікая праца: праводзіцца арганізаваны наступ на балота, што раскінулася ў басейнах рэчак Трубіж, Альта, Карань і Супой. На ўзбярэжжы будзе створана магутная база гароднін для працоўных Кіева. Каля дваццаці тысяч гектараў непраходных гнілых балот будуць ператвораны ва ўрадлівыя палеткі. Цалкам асвоена пойма рэчкі Супой — каля двух з паловай тысяч гектараў. Калгаснікі збіраюць высокія ўраджаі бульбы і сена, буракоў і капусты. Дзяржава ўзброіла калгаснікаў магутнай тэхнікай, на балотах працуюць канавакапальнікі і скрэперы, бульдозеры і экскаватары. На Пераяслаў-Хмельніцкай балотна-меліяратыўнай станцыі ёсць спецыяльна падрыхтаваныя механізатары-меліяратары. З глыбокай удзячнасцю хлебаробы называюць імя брыгадзіра трактарнай брыгады камуніста Мікіты Лазаравіча Вергуна, які адваяваў у балота некалькі тысяч гектараў зямлі ля рэчкі Супой. Таксама славіцца брыгада на чале з Аляксеем Блізнюком.

Госцячы ў памокліўскім калгасе імя Молатава, мажайцы мелі магчымасць пераканацца, што летняя паездка пераяслаўцаў пакінула ў іх значны след: старшыня калгаса Шульга арганізаваў працу па ўзору падмаскоўных калгасаў, механізуе таварныя фермы і ўкараняе электрычнасць. Яны пабачылі, што знатная даярка Марыя Гальчук творча пераймае вопыт сваёй сяброўкі з Падмаскоўя Марыі Балакіравай. Нездарма ў час сустрэчы з калгасным актывам Мажайскага раёна Алена Сямёнаўна Хобта заявіла:

— Сардэчна дзякую вам за вашу навуку. Мы багата чаго запазычылі ў вашым раёне і ваш вопыт перанеслі ў нашы калгасы.

Не дарэмна пераяслаўцы падпісалі дагавор на сацыялістычнае спаборніцтва між Мажайскім і Пераяслаў-Хмельніцкім раёнамі.

Мажайцы хадзілі вуліцамі аднаўленага Пераяслаў-Хмельніцкага і захапляліся размахам будаўніцтва, асабліва цудоўным ансамблем будынкаў на цэнтральнай плошчы горада. А яшчэ зусім нядаўна тут, дзе вырас будынак Саветаў, гасцініца, універмаг, былі руіны пасля нямецка-фашысцкай акупацыі.

На будаўніцтве Палаца культуры мажайцаў прывітаў брыгадзір муляраў Аляксандр Філіпкоў.

— Вы тутэйшы? — запыталі яны, любуючыся спрытнай працай майстра.

— Я недалёчка адсюль жыву, — усміхнуўся Філіпкоў, — у Беларусі. Пачуў, што украінцы адбудоўваюць свой слаўны горад, і захацелася мне прыкласці свае рукі да гэтай справы. У сваю Гомельшчыну напісаў, каб чакалі мяне не раней, як пасля трохсотгадовага юбілея, калі закончу ўсе будаўнічыя работы. Зараз я спаборнічаю з рускім таварышам Іосіфам Кавалёвым. Добра атрымліваецца. Украінцы могуць быць упэўнены: рускія і беларускія браты навек робяць.

Ніколі не падвядуць Філіпкоў і Кавалёў украінскіх братоў. Можна быць упэўненымі, што да трохсотгоддзя ўз'еднання Пераяслаў-Хмельніцкі ўпрыгожыцца запланаванымі навабудоўлямі, што пераяслаўцы атрымаюць чатыры новыя школьныя памяшканні, памяшканне для педвучылішча, тэхнікума культасветных працаўнікоў, музея ўз'еднання, бальніцы, магазінаў, што будуць у тэрмін завершаны ўсе 25 аб'ектаў, запланаваныя ў першую чаргу. Галоўны архітэктар горада Уладзімір Гурскі кажа, што за ўсю сваю шматгадовую гісторыю Пераяслаў-Хмельніцкі не перажываў такога бурлівага росквіту, што горад у бліжэйшы час стане надзвычайна прыгожым і ўпарадкаваным. Разам з будаўніцтвам новых дамоў будуць аднаўлены помнікі старажытнасці — званіца Вазнясенскага сабора, якая завяршае перспектыву галоўнай вуліцы, і павільён будынкаў дамангольскага перыяду...

Натхнёным творчым жыццём жыве слаўны старажытны горад на Прыдняпроўі — малады сацыялістычны горад Пераяслаў-Хмельніцкі.

І ўсе, хто пабываў там, з гонарам скажуць пра Пераяслаў, як пра горад-помнік неўміручай славы, як пра горад, што свяшчэнна захоўвае вечныя традыцыі вялікай дружбы між народамі.

Нашчадкі народа, які трыста гадоў таму назад па закліку сэрцаў абняўся з рускім братам, шчаслівыя і гордыя тым, што з года ў год мацнеюць братэрскія сувязі, што дружба — крыніца ўсіх радасцей савецкіх народаў — не згасае, а ўсё больш ззяе, поўніцца жыватворчымі сіламі.

**г. Пераяслаў-Хмельніцкі Кіеўскай вобласці.**

М. МІХАЙЛАЎ

# Моладзь выходзіць на сцэну

Партыю Лакмэ ў оперы Дэліба «Лакмэ» спявае самая маладая спявачка Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета Э. Шалкавец. Яна яшчэ часам пазірае на дырыжора, каб не страціць рытм, адчувае некаторую няўпэўненасць у руках, бо гэта толькі другая партыя, якую яна выконвае ўпершыню пасля заканчэння Беларускай кансерваторыі. Але як багата душэўнага хараства і непасрэднасці ў пачынаючай опернай артысткі.

... Юная прыгажуня, жрыца індускага храма Лакмэ спявае малітву, задуменная мелодыя якой нагадвае тужлівы і крыху суровы ўсходні матыў. Але шчырасць і свежасць пачуцця, якімі напоўнена песня, надзвычай хвалюе. Срабрысты голас салісткі не дакучае наўмыснымі, чужымі вобразу вонкавымі вакальнымі эфектамі. І таму такой натуральнай выглядае яна і ў наступнай сцэне, дзе Лакмэ захапляецца незвычайным хараством прыроды, гарачым сонцам. Здаецца, што не толькі квітнеючая зямля, але і ўсе людзі ўсміхаюцца дзяўчыне. Сэрца яе поўніцца радасцю, пяшчотным пачуццём каханпя, якое толькі што нараджаецца.

Шалкавец глыбока пранікае ва ўнутраны свет гераіні, ствараючы выразны характар. Усходні каларыт вобраза перададзены без нізкай экзотыкі.

Паэтычнасць і шчырасць пачуцця характэрна і для беларускіх песень, з якімі артыстка выступае на канцэртнай эстрадзе.

Музычная культура, манера каларатурнага спявання салісткі нясе ў сабе высокародныя рысы рускай вакальнай школы, заснавальнікамі якой былі М. Глінка, О. Пятроў, А. Нежданава, Л. Собінаў і Ф. Шаляпін. Пад уплывам гэтай найлепшай у свеце школы выхоўваюцца ў нашых кансерваторыях, а потым і на опернай сцэне ўсе маладыя савецкія спевакі.

Таленавітая балетная моладзь нашага тэатра выконвае побач з вялікімі партыямі і невялікі эпізод з балета «Салавей» М. Крошнера.

... Француз-балетмайстар прыгоннага тэатра навучае сялянскіх дзяўчат класічнаму танцу. Адчуваецца, што вучоба ў чужаземца ім не па сэрцу, і таму справа не ладзіцца. Іншыя клопаты ў вучаніц. Асабліва глыбока перадае агульны настрой Марылька, партыю якой выконвае Б. Карпілава. Марылька ніяк не трапляе ў такт музыкі, часта збіваецца з рытму. Адчуваецца, што ўсё, што тут адбываецца, чужое для яе.

У гэтым невялічкім эпізодзе маладая балерына паказала багаты духоўны свет сваёй пакутуючай гераіні.

Такая мастацкая пераканальнасць — вынік навучання ў савецкай харэаграфічнай школе, якая валодае самай багатай спадчынай і самымі слаўнымі традыцыямі рускай класікі.

Юная салістка оперы Э. Шалкавец і найбольш сталая маладая артыстка балета Б. Карпілава — не адзінокія ў творчым калектыве Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, які ў студзені будзе святкаваць свой дваццацігадовы юбілей. Іх лёс — лёс дзяцей рабочых і калгаснікаў, якія атрымалі мастацкую адукацыю, — характэрны для ўсяго новага пакалення спевакоў, танцораў і музыкантаў.

Юныя таленты карыстаюцца ў тэатры ўсімі магчымасцямі для ўзбагачэння сваёй культуры, павышэння мастацкага густу і прафесійнага майстэрства. З чулай дапамогай рэжысуры, дырыжораў і канцэртмайстраў моладзь паглыбляе веды, якія набыты ў маскоўскай і беларускай кансерваторыях, у харэаграфічных вучылішчах Масквы, Ленінграда і Мінска. Ёй створаны ўсе ўмовы для плённай творчасці.

І не дзіўна, што новае пакаленне вакалістаў і танцораў займае ўжо значнае месца ў рэпертуары Беларускага тэатра оперы і балета, а савецкая опера «Маладая гвардыя» ставіцца, у асноўным, пры ўдзеле ў галоўных ролях маладых салістаў і рэжысёра, які нядаўна закончыў Маскоўскі інстытут тэатральнага мастацтва.

Так побач з выдатным майстрам опернай сцэны Л. П. Александроўскай (яна-ж і рэжысёр спектакля) партыю Алесі ў оперы «Дзяўчына з Палесся» спявалі маладыя салісткі Р. Асіпенка, К. Кудрашова, Л. Галушкіна.

Пільна ўглядаючыся ў творчую манеру старэйшай артысткі, ніхто з іх, аднак, не імкнуўся стварыць «копію» вобраза Алесі, а з дапамогай рэжысёра і дырыжора шукаў уласныя шляхі ўвасаблення ролі на сцэне. Для гэтага ў музыцы і тэксце оперы дастаткова матэрыялу.

Алеся — вольналюбівая беларуская дзяўчына, якая ненавідзіць лютага ворага. Дзяўчына пакутуе ад таго, што фашысцкае войска топча родныя палеткі, знішчаючы ўсё жывое, радаснае і светлае. Яе нянавісць да фашыстаў нараджае гатоўнасць да суровай барацьбы за перамогу праўды, за тое, каб сонца шчасця зноў заззяла над роднай зямлёй.

Вобраз Алесі — К. Кудрашовай велічны, прыгожы ўнутраным і вонкавым хараством. Яго асноўная тэма — высокая чэсць савецкай жанчыны, глыбокая чалавечнасць яе подзвігу ў імя Радзімы. Магутна і разам з тым цёпла гучыць яе голас у арыі Алесі і найбольш драматычных сцэнах спектакля.

Р. Асіпенка стварае вобраз Алесі, які прывабліве духоўным хараством. У ім ёсць рысы рэвалюцыйнай рамантыкі, маральнай стойкасці і, што асабліва важна для артысткі, — цёплы лірызм. Асіпенка ў вобразе Алесі сцвярджае думку, што чалавек, які так тонка і глыбока адчувае жыццё, ніколі не пагодзіцца з тым, каб гэтае жыццё стала невыносным і сонца яго было назаўсёды заслонена цемрай халоднай ночы, якую нясуць з сабой гітлераўскія паганцы. Адсюль вынікае і непераадольнае імкненне да перамогі, якое нарадзілася ў сэрцы жанчыны.

Сваё адменнае вырашэнне вобразаў знайшлі маладыя спявачкі і ў класічных творах.

Першая буйная партыя, з якой сустрэлася артыстка Тамара Шымко на опернай сцэне, — была Іаланта («Іаланта» Чайкоўскага). «Іаланта» належыць да найбольш закончаных твораў геніяльнага кампазітара.

Т. Шымко ў драматызаванай «лірычнай паэме» сцвярджае жыццелюбства Іаланты.

... Сляпая з дня нараджэння дачка караля Рэнэ Іаланта выпадкова даведалася ад графа Вадэмона, што свет зусім не такі змрочны і чорны, як ёй да гэтага часу здавалася, што яму ўласціва багацце колераў і фарбаў.

У дуэце з Вадэмонам салістка тактоўна перадае паступова нарастаючае жаданне дзяўчыны убачыць сонечнае святло, нястрымнае імкненне да радасці ў жыцці. Гэтыя пачуцці гераіні асабліва ярка перададзены ў фінальнай сцэне спектакля, дзе перад выздараўшай Іалантай адкрыўся багаты і прыгожы свет.

Нястрымная любоў да жыцця і нянавісць да бесчалавечнай буржуазнай маралі, якая знішчае ўсё высокароднае на свеце — галоўная тэма вобраза Маргарыты («Фауст» Гуно), думкамі якой жыве на сцэне Т. Шымко.

Т. Ніжнікава — стваральнік глыбока народнага вобраза рускай жанчыны Марфы ў «Царскай нявесце» Рымскага-Корсакава. Шчырасць і сардэчнасць характэрны і для яе Ганны («Страшны двор» Манюшкі) — польскай жанчыны, якая моцна любіць сваю радзіму і народ.

Глыбокая жыццёвая праўда і значная музычная культура — важнейшая рыса гераінь Т. Пастунінай, яе Антаніды («Іван Сусанін» Глінкі) і Віялеты («Травіята» Вердзі).

Сярод лепшых салістаў тэатра трэба назваць Н. Дзвінянінаву, якая ўдала выступіла ў ролі Аіды («Аіда» Вердзі), Л. Бражніка — маладога спевака са значнымі вакальнымі і сцэнічнымі здольнасцямі, якія праявіліся ў операх «Дзяўчына з Палесся», «Князь Ігар» і другіх.

Моладзь пераважае ў творчым калектыве балета і з'яўляецца асноўным выканаўцам партый у класічных і сучасных спектаклях.

Ужо некалькі год артыстка Л. Ражанава выступае ў галоўных ролях балетаў «Бахчысарайскі фантан» Асаф'ева, «Лебядзіное возера» Чайкоўскага, «Салавей» Крошнера, «Князь-возера» Залатарова, а апошні час і ў яго «Аповесці аб каханні».

Ражанава — выхаванка Маскоўскага харэаграфічнага вучылішча. Яна мае выразны творчы воблік. Рэалістычную аснову яе выканаўчага майстэрства складае глыбокае разуменне музычнай драматургіі балета, псіхалагічная дакладнасць харэаграфічнага вобраза, мастацкая праўдзівасць і змястоўнасць танца.

Вонкава сціплыя, гераіні Л. Ражанавай багатыя сардэчнасцю, чуласцю і сапраўдным духоўным хараством.

Танец Ражанавай поўны светлай, задуменнай лірыкі. Аднак і ў драматычных сцэнах яе вобразы нясуць сабе такую-ж пераканальную жыццёвую праўду, як і ў лірычных эпізодах. У ролях, якія яна выконвае, ёсць чалавечнасць і сапраўднае майстэрства. І таму ні адна з гераінь, з якімі наша маладая салістка пазнаёміла гледачоў, не пакідае іх абыякавымі да сябе.

Прыемна і тое, што ў Л. Ражанавай ёсць здольныя сяброўкі і сябры са сваёй ярка выяўленай мастацкай індывідуальнасцю. Гэта асабліва прыкметна ў творчасці В. Крыкавай, Н. Семілетнікавай, В. Міронава і Э. Піно.

Рысы мастацкай сталасці прыкметны ў гэтых салістаў, якія ўсе разам ствараюць цудоўны ансамбль балетнага калектыва.

Вельмі радасна, што ўрачыстасць юбілея — не толькі свята заслужаных майстроў старэйшага пакалення, але і іх маладых таленавітых выхаванцаў. У іх поспехах — выдатная будучыня калектыва Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.

## ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ Ў МІНСКУ



У складзе дэлегацыі Мангольскага Таварыства культурнай сувязі з Совецкім Саюзам, якая наведала Мінск, была заслужаная артыстка МНР Д. Цэрэндулма. Яна сустрэлася з артыстамі беларускай сталіцы, расказала аб мангольскім мастацтве. На здымку (злева направа): народная артыстка БССР О. В. Галіна, заслужаная артыстка МНР Д. Цэрэндулма, народная артыстка СССР і БССР лаўрэат Сталінскай прэміі Л. П. Александроўская і народны артыст БССР В. І. Уладамірскі.

Фота В. Лупейкі. (Фотахроніка БЕЛТА.)

Скоры поезд падышоў да перона. На мінскім вакзале з кветкамі ў руках сабраліся рабочыя, студэнты, вучоныя, артысты, прадстаўнікі грамадскасці горада.

З міжнароднага вагона выходзяць члены дэлегацыі Таварыства польска-савецкай дружбы. Старшыня праўлення Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай Г. Н. Верасаў і глава дэлегацыі гасцей Стэфан Ігнар абмяняліся прывітальнымі прамовамі. Госці з Польшчы пазнаёміліся з жыццём сталіцы Савецкай Беларусі, яны з цікавасцю агледзелі горад, яго новабудоўлі, архітэктурныя ансамблі. У цёплай, сяброўскай абстаноўцы прайшоў вечар польска-савецкай дружбы. У святочным адзенні была ў гэты дзень глядзельная зала Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.

Госці з Польшчы — далёка не адзіная дэлегацыя, якая наведала Мінск у гэтым годзе. З жыццём беларускага народа пазнаёміліся кітайцы, манголы, албанцы, румыны, чэхі, шведы, фіны, канадцы, бірманцы і прадстаўнікі іншых краін. Замежныя госці пабывалі на заводах, фабрыках, у калгасах, школах, інстытутах, бальніцах, тэатрах і рабочых клубах. Усіх, хто прыязджае з-за мяжы, здзіўляюць велізарныя маштабы будаўніцтва Мінска. Кіраўнік дэлегацыі таварыства «Швецыя — СССР» Эрык Тур заявіў: «Не так даўно мы адзначалі 700-годдзе шведскай сталіцы. Скажу адкрыта: беларускія градабудаўнікі за якіянебудзь сем год стварылі тое, на што ў нас, у буржуазнай Швецыі, пайшлі стагоддзі».

Многа цікавых, задушэўных гутарак па прафесіях адбылося ў замежных гасцей з беларускімі таварышамі. Шведскі каменшчык Эрнст Норстрэм пагутарыў з вядомым будаўніком Мінска Д. Булахавым. Народная артыстка СССР і БССР Л. П. Александроўская запрасіла да сябе мангольскую артыстку Д. Цэрэндулма. Цікавай была сустрэча балгарскага пуцявога абходчыка станцыі Сафія Івана Недзялкова і польскага машыніста дэпо Быдгошч Стэфана Чарнецкага з мінскім дыспетчарам-наватарам Паўлам Суднікавым.

Гэтыя наведванні дружбы садзейнічаюць узаемаразуменню, умацаванню культурных сувязей народаў, якія змагаюцца за мір на ўсёй зямлі.

Т. ДАНІЛАЎ, Б. МАРТЫНАЎ.









**Растуць маладыя таленты ў Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета. У многіх пастаноўках за апошнія гады добра паказалі сябе маладыя спевакі, танцоры, музыканты. Гэта выпускнікі маскоўскай, ленінградскай і мінскай кансерваторый, якія пачалі свой творчы шлях на беларускай сцэне.**

**Да свайго 20-годдзя тэатр оперы і балета прыйшоў з таленавітай плеядай моладзі, якая пераймае вопыт сваіх старэйшых таварышоў, вядомых артыстаў. Яна поўная рашучасці выканаць адказныя задачы, пастаўленыя партыяй перад савецкім мастацтвам.**

На здымках: **эцюд з балета «Шапеніяна» ў выкананні артыстаў Лідзіі Ражанавай і Валерыя Міронава; артыстка Ніна Дзвінянінава ў ролі Аіды з аднайменнай оперы; артыст Леанід Бражнік у ролі князя Галіцкага з оперы «Князь Ігар»; артыстка Тамара Шымко ў ролі Маргарыты з оперы «Фауст».**

Фота А. Дзітлава.





Стаханавец Мінскага інструментальнага завода комсамолец Пётр Касцяневіч.
Фота М. Мінковіча.

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# Мінскія ткачыхі

Нарыс

Калі ўпершыню зойдзеш у ткацкі цэх Мінскага тонкасуконнага камбіната, то пры ўсім тваім жаданні доўга там не прабудзеш. Грукат ткацкіх станкоў хутка аглушыць цябе, не пачуеш ні таго, што табе будуць гаварыць, ні свайго ўласнага голасу. А выйдзеш на двор, у вушах яшчэ доўга будзе звінець, і калі загаворыш з кім, то будзеш не гаварыць, а крычаць, нібы перад табой глухі чалавек.

Некалькі год таму назад, напэўна, гэтак-жа сама адчувала сябе ў цэху Лілія Макарэвіч, дзяўчына з далёкай полацкай вёскі. Да гэтага яна, канешне, чула, што ёсць недзе слуцкія ткачыхі, што яны ткуць прыгожыя паясы. У вёсцы, дзе яна расла, таксама былі жанчыны, якія некалі вельмі добра ткалі. У аднае суседкі была шарсцяная коўдра ў лапачкі. Па святочных днях гаспадыня засцілала ёю ложак. Суседка запэўняла, што гэтую коўдру выткала некалі яе маці. Сорак год прайшло з таго часу, а коўдра ўсё служыць і нават мала паліняла.

Пра такіх ткачых Лілія сёе-тое ведала, некаторых бачыла, а тых, што працуюць у горадзе, убачыла толькі тады, калі прыехала на камбінат. Тут усё было зусім не так, як уяўляла сабе неспрактыкаваная вясковая дзяўчына. У доўгім цэху ў два рады стаялі незвычайныя, нават крыху страшнаватыя машыны. Каля кожнай з іх віселі драцяныя сеткі. Спачатку можна было падумаць, што гэта для таго, каб сюды блізка не падыходзіць, але-ж людзі стаялі каля машыны і за нечым там наглядалі, нешта папраўлялі. Крыху пазней Лілія заўважыла, што сеткі гэтыя павешаны насупраць чаўнакоў. А чаўнакі так хутка лёталі сюды-туды па аснове, што іх нельга было згледзець вокам. Каб, не тут кажучы, каторы вырваўся, — забіў-бы чалавека! Вось ад гэтага і сеткі павешаны.

Першае, што паказалі дзяўчыне ў цэху, была звычайная шарсцяная нітка. Яе разарвалі і сказалі Ліліі: «Звяжы!» Дзяўчына звязала сваім вузлом, як даводзілася часта звязваць што-небудзь дома.

Ёй сказалі: «Няправільна. У нас іншыя вузлы. Звязвай вось так: спачатку наматвай на вялікі палец, а потым працягвай канцы ў вушка».

Затым Лілію падвялі к прысучальшчыцам. Дзве дзяўчыны сядзелі ў нітках, як птушкі ў гнёздах, і, нібы чараўніцы, зрошчвалі аснову. Першая аснова канчалася, ад яе заставаліся толькі канцы. Падводзілі новы навой. Трэба было прысукаць адны канцы да другіх ды зрабіць гэта так умела, каб на тканіне нават нельга было нічога заўважыць. Глядзела Лілія на рукі прысучальшчыц, такіх-жа маладых дзяўчат, як сама. Глядзела і дзівілася. У іх праворных пальцах імгненна зрошчваліся канцы двух асноў, выходзілі суцэльныя ніткі, нібы ніякай новай асновы і не было.

Праз дзень-два гэтая работа не ўяўлялася ўжо ёй вялікім цудам, а крыху пазней Лілія сама пачала прысучваць аснову і працавала тут некалькі месяцаў.

Цяпер, калі Макарэвіч ідзе па ткацкім цэху, яе з абодвух бакоў суправаджаюць ласкавыя позіркі маладых ткачых. Гэта нядаўнія вучаніцы Ліліі—Аня Варган, Іра Шаўцова, Маня Качура і другія. Ёсць у яе вучаніцы і цяпер. Два разы ў тыдзень Макарэвіч праводзіць з імі заняткі па тэхмінімуму.

А пройдзе яна далей па цэху— сустрэне і старэйшых ткачых, тых, якія некалькі год таму назад вучылі яе, у якіх і цяпер не грэх сяму-таму павучыцца. Сустрэне інжынера Валянціну Сямёнаўну Літвіну, якая працуе начальнікам ткацкай вытворчасці. У свой час многа карыснага ўзяла Лілія ад Валянціны Сямёнаўны, гэтага сумленнага спецыяліста і вельмі добрага, абыходлівага чалавека.

Потым можа сустрэцца Ліліі цэлая група яе равесніц, ужо нетутэйшых людзей, а прыехаўшых з Клінцоўскага тэкстыльнага тэхнікума. Гэта ўсё спецыялісты, як кажуць, сярэдняй рукі: тэхнікі ткацкай справы Ніна Бражнова, Зіна Калеснікава, Іра Цацурына, якая працуе цяпер комсоргам камбіната, Ніна Панус, памочнік майстра ткацкага цэха. Нарэшце, сустрэнецца яшчэ адзін памочнік майстра Станіслаў Тамашэўскі. Ён яшчэ зусім малады хлопец, аднак, ткачыхі празвалі яго «прафесарам», нібы пажылога. Гэта, мабыць, за тое, што хлопец крыху замкнуты і часам залішне высока ставіць свае перавагі. Праўда, спецыяліст ён нядрэнны. У той час, калі Тамашэўскі працаваў на тым камплекце, дзе станкі Ліліі, ён дапамагаў маладой ткачысе вывучаць усе дэталі машыны. Тэхнікі тэхнікамі, а ткачыха сама павінна ўмець ліквідаваць разладку станка, калі яна здарыцца, або які-небудзь дэфект. Добра выконваюць свае планы і дамагаюцца найлепшай якасці толькі тыя ткачыхі, якім не трэба за кожнай дробяззю бегаць да памочніка майстра ці тэхніка. У Ліліі Макарэвіч амаль што ніколі не бывае браку, хіба толькі па вельмі важнай прычыне ці непазбежным выпадку.

Брак усюды цяпер—найгоршая з'ява, а тут — ён роўназначны самаму вялікаму няшчасцю. Ткачыхі самі апранаюцца ў тое, што ткуць. Калі не літаральна ў тое, дык у падобнае, аднароднае. Ва ўсіх іх вельмі тонкі густ, прафесійнае ўменне заўважаць на матэрыяле нават такі недахоп, які для звычайнага вока зусім непрыкметны. Усё гэта абвастрае непрымірымасць да якіх-бы там ні было недагляду ў рабоце.

Аднойчы нам давялося зайсці ў ткацкі цэх якраз тады, калі там адбылося надзвычайнае здарэнне — у адной ткачыхі вышаў брак. На сцелажы пасярэдзіне цэха вісела метраў чатыры сураўя, а на ім вялікімі літарамі было напісана: «Брак». Ніжэй — прозвішча ткачыхі: «Ніна Варапай».

Каля сураўя стаяла Лілія Макарэвіч і ўважліва аглядала яго. Твар яе быў хмурны і засмучоны. Тут-жа мітусілася з іголкаю ў руках віноўніца браку. Яна намагалася месцамі сцягнуць блязну, зрабіць яе менш прыкметнай.

— Нічога тут не паправіш, — з крыўдай сказала Лілія. — Проста аж цяжка паверыць, што так вышла! Ты драмала за станком ці што?

Дзяўчына змоўчала, толькі часта замаргала пачырванелымі павекамі. Відаць, ужо не першы папрок чула яна і, напэўна, не раз усплакнула ад такой непрыемнасці.

Неўзабаве ўся начная змена сабралася ў кабінеце начальніка ткацкай вытворчасці. Прышлі сюды парторг камбіната Мартынаў і комсамольскі арганізатар Іра Цацурына.

Валянціна Сямёнаўна Літвіна сядзела за сваім сталом гэтак-жа спакойна і натуральна, як іншы раз даводзілася ёй сядзець сярод дзяўчат пры сяброўскай размове. На ёй — вельмі прыгожае, з густам пашытае плацце, цёмныя валасы прычасаны па-дзявочы, але дасціпна, без ніякіх выкрунтасаў. Амаль кожную зайшоўшую ткачыху яна сустракала ветлівым, нібы нават залішне вясёлым, позіркам. Можна было падумаць, што Валянціна Сямёнаўна ніколі не здолее сказаць суровага слова, што ўсякія занадта сур'ёзныя нарады ёй не па плячу.

Але як толькі яна ўстала і адкрыла нараду, такое ўражанне адразу знікла. Твар яе не стаў афіцыйна-суровым, як гэта бывае ў такіх выпадках з многімі, відно было, што яна не будзе тут крычаць, пагражаць, падбіраць колкія словы. Яна скажа спакойна, нібы нават па-таварыску, але гэта будзе мець вялікі ўплыў.

Так яно і было. Валянціна Сямёнаўна гаварыла з Нінай Варапай ціха, ураўнаважана, быццам з вока на вока, а ўсе слухалі і адчувалі, нібы яна гаворыць з кожнай з іх.

— Цяпер усе рабочыя, усе савецкія людзі стараюцца, каб ніводная хвілінка дарэмна не загінула, каб больш было прадукцыі для народа, а ў цябе, Ніна, прападаюць цэлыя гадзіны! Ну, добра, — агледзелі мы брак. А каб выпадкова не агледзелі? Пайшоў-бы гэты кусок у магазін ці, скажам, у майстэрню на пашыў. Пашыў-бы чалавек з яго сабе паліто, наш, савецкі чалавек, магчыма, рабочы, такі, як мы з вамі. Праклінаў-бы ён потым і тых, хто яму прадаў гэты кусок, і тых, хто яго выткаў. Гэта азначала-б, што мы ашукалі гэтага чалавека, нашага спажыўца, значыць, ашукалі-б савецкую ўладу. Ашуканцамі былі-б мы, увесь калектыў камбіната. А вышла-б гэта таму, што адзін чалавек працаваў у

**Гутаркі аб справах камбіната адбываюцца і ў інтэрнаце маладых ткачых.** На здымку другая справа — **сакратар камітэта комсамола І. Цацурына.**

Фота А. Дзітлава.





Спакойна, без напружання, але хутка працуе адна з лепшых ткачых камбіната Лілія Макарэвіч.

нас—дрэнна! Ты разумееш гэта, Ніна?

Дзяўчына паднялася з свайго кутка і хутка зноў села, апусціла галаву.

— Ты слаба гэта разумееш, — працягвала Валянціна Сямёнаўна. — І ўся бяда ў тым, што ты вельмі мала вучышся. У вячэрнюю школу не ходзіш, яшчэ і другіх адбіваеш.

— Я не адбіваю,—няўпэўнена запярэчыла Ніна.

— Калі не будзеш вучыцца, не палепшыш работу, прыдзецца адабраць ад цябе другі станок, будзеш працаваць на адным. Я заўважаю, Ніна, што ты не зусім правільна глядзіш на жыццё. Ты ўсё імкнешся к аднаму: як-бы больш пагуляць на вечарынках, кваціцсцей адзецца. Падчас нават фанабэрышся тым, што знешне ты прыгажэйшая, ну, скажам, за каго-небудзь з сваіх сяброўак. А чалавек павінен быць прыгожым не толькі знешне. Ты разумееш?..

Потым узяла слова Лілія Макарэвіч і сказала аб тым, што, на яе погляд, Ніна не бачыць нітак, калі стаіць ля сваіх станкоў. Глядзіць на аснову, а думкі нямаведама дзе.

— Душы няма ў рабоце, — удакладніла Лілія. — Усё тое добрае, каштоўнае, што робіцца людзьмі, яно робіцца з вялікай душой, інакш яно не можа быць каштоўным. Калі і цяпер мы ўспамінаем слуцкія паясы, калі і цяпер іх людзі носяць і шануюць, значыць, яны былі вытканы не абы як. Душу ўкладалі слуцкія ткачыхі ў гэтыя паясы. Там была і якасць, там была і прыгажосць, там было мастацтва, хоць тэхнікі ў іх не было ніякай. А мы, апрача таго, што вельмі мала думаем аб прыгажосці нашай тканіны, дык яшчэ і брак робім.

Пасля нарады дзяўчаты выйшлі з шумлівага цэха на заводскі двор. Быў якраз пагодлівы дзень позняй восені. З-за камбінацкіх жылых будынкаў весела свяціла сонца, нібы радуючыся, што яно здолела падняцца вышэй гэтых будынкаў. Дрэвы на скверы даўно асыпаліся, але лавачкі былі сухія і нават крыху цёплыя ад сонца. Па летняй звычцы дзяўчаты паселі тут, і ў іх пачалася звычайная дзявочая гаворка, хоць па матывах яна ўсё-ж нагадвала працяг нарады.

— От, нагаварыліся сёння, — нібы апраўдваючыся, сказала Лілія. — Але-ж без гэтага нельга. Ты, Ніна, не крыўдуй ужо вельмі.

— А чаго-ж мне крыўдаваць! Праўду гаварылі.

Ніна Панус тым часам падыйшла да сваёй цёзкі і ўзяла яе за рукаў.

— Ты, Ніна, даўно гэтае паліто справіла? — спытала яна.

— Не, нядаўна, — адказала дзяўчына і задаволена ўсміхнулася.

Працягнула руку і Лілія.

— Някепскі матэрыял, — заўважыла яна. — Колер харошы. Але глядзі, глядзі!.. Гэта-ж падплецінка ў цябе каля бакавога шва.

Дзяўчына сумелася і закрыла шво локцем.

— Хай яно спрахне... — шчыра прызналася яна, — з-за гэтага саромеюся паліто насіць.

— Дык гэта-ж яшчэ добра, што яна ў цябе пад локцем, — зазначыла Лілія. — А калі-б дзе-небудзь на відным месцы. Прапала-б паліто!

— Ну, гэта яшчэ не вялікая бяда, — умяшалася ў гаворку Іра Цацурына. — От я ў мінулым годзе была купіла паліто. Надзела, трапіла ў ім пад дождж. А з яго як пацячэ фарба!.. Проста — адна фарба. Усё плацце мне запляміла. От перажывала!..

— А дзе ты, Ніна, даставала гэты матэрыял? — спытала Аня Варган.

— Ды хіба я даставала!.. — ахвотна адказала Ніна. — Людзі дасталі...

— Цяжкавата яшчэ ў нас дастаць добры каўнер, — згадзілася Ніна Панус. — Але хутка павінна стаць лепш. Нядаўна мне трэба было сівы каўнер купіць на зімовае паліто, дык я ўсе магазіны абхадзіла, не знайшла. Пайшла ў выходны дзень на гэтую самую таўкучку, натаўхалася там да таго, што ў галаве пачало шумець. Сівы каўнер пачаў проста мільгацець у маіх вачах: угледзела аднаго дзеда з сівой барадой і пабегла за ім, думала, каўнер нехта прадае.

Дзяўчаты засмяяліся.

— Добра, што ты не ўчапілася дзеду ў бараду, — пажартавала Аня Варган.

А Лілія, калі змоўк смех, дадала:

— Дарэмна ты сама бегала, трэба было выправіць свайго «прафесара», ён і знайшоў-бы табе каўнер.

Сярод дзяўчат падняўся рогат. Ніна Панус таксама засмяялася, аднак потым адпарыравала:

— Ён-жа не гандлёвы работнік, куды-ж я яго выпраўлю!

— А калі мой — гандлёвы, дык я, думаеш, выпраўляю?

— Разумей, як хочаш. К таму-ж — няма ў мяне ніякага «прафесара». Патрэбен ён мне!

— От якая! — Лілія з папрокам паківала галавой.

— Жарты жартамі, дзевачкі, — загаварыла не надта ахвотлівая на словы Маня Качура, — а мне сапраўды дзіўна, чаму гэта мы самі тчэм, а купіць свайго матэрыялу ў Мінску не можам!

— На пашыў то ён ідзе і тут, — зазначыла Іра Цацурына.

— А я не вельмі і шкадую, што цяпер няма тут нашага матэрыялу, не вялікае шчасце купляць яго.

— Чаму?

— Таму што ў большасці вельмі ўжо нецікавы наш матэрыял, мала ў ім мастацкай выдумкі. Усё нейкія прасцецкія перапляценні, малюнкі. Цяпер людзі не хочуць нічога шыць з такога матэрыялу.

— Ты-б сказала аб гэтым нашаму дэсінатару ды тэхнолагам, — параіла Ніна Панус.

— І скажу, думаеш, не? — Бледнаваты твар Лілії загарэўся. — Я многа пра што скажу. Усё вось думаю, збіраю факты, а потым і скажу.

— А ведаеце што, дзевачкі?!. — загаварыла Іра Цацурына, падняўшыся з лаўкі. — Давайце пагаворым аб гэтым заўтра на камсамольскім сходзе. Праўда? Лілія, ты выступіш? Як член партыі, будзь у нас прадстаўніком ад партыйнай арганізацыі.

Іра задорна ўсміхнулася і з надзеяй на падтрымку весела агледзела сяброўак.

— Праўда, дзевачкі?!.

Яна зноў села, але ад гэтага мала паменшала, бо лаўка была высакаватай на яе рост.

— Я выступлю, — згадзілася Лілія. — А цяпер давайце пойдзем, а то памерзнем тут, чаго добрага. Маня, перадай усім, што заўтра пасля змены — заняткі па тэхмінімуму.

Увечары Лілія доўга раілася са сваім мужам. Муж яе працуе ў раённым гандлёвым аддзеле і, вядома, добра разумее, чаго цяпер патрабуе пакупнік, як цяпер трэба працаваць, каб задаволіць патрэбы народа. Таму ўсякія пошукі і прапановы жонкі ён прымае шчыра, усёй душой, заўсёды стараецца дапамагчы ёй абдумаць і ажыццявіць тое ці іншае мерапрыемства. І на гэты раз ён ухваліў усё, што Лілія збіралася вынесці на абмеркаванне калектыва камбіната.

Назаўтра Макарэвіч выступіла на камсамольскім сходзе. Яна ўнесла некалькі даволі каштоўных прапаноў. Па-першае, яна давяла, што як драп, так і мінскае трыко, якія выпускаюцца на камбінаце, могуць мець значна больш прыгожых малюнкаў, чым яны маюць цяпер. Якасць іх таксама можа быць значна палепшана.

Далей былі ўнесены прапановы наконт эканоміі вытворчай мінуты. Грунтуючыся на сваім вопыце, Макарэвіч даказала, што падрыхтоўка станка можа праводзіцца значна хутчэй, чым гэта робіцца цяпер. Можна таксама сэканоміць некалькі хвілін на прысукванні асновы, на змене чаўнакоў. Абрыўнасць нітак трэба звесці да мінімума. І калі так прайсці па ўсім камплекту, можна многа знайсці мінут, а гэта значыць — знайсці дзесяткі метраў тканіны.

Услед за Макарэвіч выказаліся многія камсамольцы. Іх прапановы падтрымала партыйная арганізацыя, дырэкцыя камбіната. Пачаў думаць над гэтымі прапановамі камбінацкі дэсінатар Лазар Ефімавіч Гурэвіч, пачалі думаць тэхнолагі, начальнікі цэхаў.

Цяпер ужо на камбінаце асвоена пятнаццаць новых малюнкаў драпу і мінскага трыко. Выпускаецца яго значна больш, чым некалькі месяцаў таму назад, і лепшай якасці.

А Лілія тым часам, ідучы ў першых радах мінскіх ткачых, выношвае новыя рацыяналізатарскія прапановы. І адно вельмі важнае рашэнне выспявае ў яе што далей, то ўсё больш і больш—на той год Лілія мяркуе паступіць на завочнае аддзяленне Мінскага тэхнікума лёгкай прамысловасці, каб стаць высакакваліфікаваным майстрам ткацкай справы.

Камбінат прыступіў да выпуску яшчэ аднаго віду матэрыялу з каляровым арнаментам. Начальнік ткацкай вытворчасці В. Літвіна (справа) і памочнік майстра Н. Панус уважліва аглядаюць першыя метры сураўя новай тканіны.



Ніл ГІЛЕВІЧ

## Маладзы будаўнік

У новым сінім хвартуху
Стаіць ён з кельмай на сцяне.
Калісь, малому хлапчуку,
Такое снілася і мне.

Ён цэглу звонкую у мур
Кладзе любоўна дзень пры дні,
І ўжо відаць наўкруг яму
Увесь родны горад з вышыні;

Відаць палі, лугі, бары,
Шляхі ў жывой кайме прысад.
І ён любуецца ўгары:
«Які шырокі кругагляд!»

Увечар хлопец кожны раз,
Калі згусцее шэры змрок,
Спяшае ў школу, ў родны клас,
Што свеціць вокнамі здалёк.

Старанны, шчыры будаўнік,
Юнак і там не адстае,
Ён бачыць будучыні дні
І ў мары верыць у свае.

А мары светлыя ў яго,
І ўжо нікому не сакрэт,
Што пойдзе хлопец наш праз год
На будаўнічы факультэт.

Над чарцяжом, над грудай кніг
Павекі часта зводзіць сон;
Ды заўтра зноў раней за ўсіх
Бярэ сяброўку-кельму ён.

І дом расце — прыгожы дом,
Кладзецца цэгла рад у рад —
Штодзень вышэй, і з кожным днём
Шырэй у хлопца кругагляд.



Яўген ВАСІЛЁНАК

# Мацней за ўсё

Апавяданне

Мал. І. Давідовіча.

На палубе парахода было шумліва, як і ў кожным месцы, дзе збіраецца шмат людзей. На правым борце, каля кармы, забівалі «казла» пажылы чыгуначнік, два шахцёры і геолаг. Гульня суправаджалася выбухамі гучнага смеху. Налева ад аматараў даміно група студэнтаў бойка абмяркоўвала новы фільм. Воддаль якісьці пахмуры асілак ласкава варушыў мяхі старэнькага, бывалага баяна, і той даверліва расказваў усім на палубе аб сэрцы свайго гаспадара; часамі здавалася, што ў баяне схаваны цэлы аркестр, бо там гучэлі то разважлівы фагот, то далікатная флейта, то сардэчная скрыпка.

Параход ішоў па Цымлянскім моры. Відаць было, што большасць пасажыраў прызвычаілася ўжо і да парахода, і да самога мора, хоць унесена яно яшчэ далёка не ва ўсе падручнікі і адзначана не на кожнай карце. Напэўна, не ўпершыню плылі па Цымлянцы і гэтыя вось неўгамаваныя аматары даміно, і жвавыя студэнты, і баяніст-асілак. Таму і адчувалі яны сябе тут нібыта ў даўно знаёмым месцы. Геолаг нават сказаў сваім сябрам:

— Наша Цымла зрабілася абжытым морам.

Раніцой далёка на небасхіле паказалася невялічкая алавяна-сіняя хмарка. Хмарка расла і расла, хутка наближаючыся. Вось яна падышла зусім ужо блізка, і ў паветры дыхнула прахалодай. Тады быццам змянілася пара года: нібы замест лагоднага жніўня з'явіўся пранозлівы лістапад. Мора пацямнела, зрабілася нейкае шурпатае, непрыветлівае. Чакалі, што будзе шторм. А хмара раптам павярнула, пайшла ў другі бок. Тады і вецер сцішыўся, і мора пасвятлела, і неба зноў стала зырка-блакітнае.

Дзіўныя паводзіны ў Цымлянскага мора. Мо' яно яшчэ не звыклася са сваім нараджэннем, а мо' яму — маладому — і трэба вось гэтак здзіўляць людзей сваім юнацкім свавольствам!

На левым борце, там, дзе палуба была самая шырокая, сядзелі двое: Іван Сцяпанавіч Бурак, бухгалтар хлебазавода, і Сяргей Васільевіч Сержантаў, пяхотны афіцэр у званні капітана. Першы быў пажылы ўжо чалавек з раскошнай барадой каштанавага колеру, з залысінамі на ілбе, з шырокім тварам, на якім ляжаў адбітак спакою і задаволенасці жыццём; вочы яго пазіралі на ўвесь навакольны свет з той абыякавасцю, што прыходзіць да некаторых людзей, калі ім пераваліва за пяцьдзесят. Другі выглядаў амаль юнаком, але, мяркуючы па колькасці зорачак на пагонах, павінен быў пабачыць ужо не менш, як трыццаць вёснаў. Ростам ён не вельмі каб удаўся, твар меў такі, які цяжка вылучыць сярод многіх іншых. Звярталі на сябе ўвагу толькі яго рукі — жылістыя, моцныя, у якіх угадвалася нястрымная парыўная сіла. Яны ўвесь час былі ў руху, нібы дапамагаючы капітану гаварыць, спрачацца і нават слухаць.

Іван Сцяпанавіч і Сяргей Васільевіч пазнаёміліся сёння ў час снедання. Высветлілася, што яны землякі, абодва з-пад Оршы, і гэтая акалічнасць зблізіла іх амаль на адлеглаць сяброўства. Увесь дзень яны былі разам. Разам слухалі радыё, разам абедалі, потым гулялі ў паддаўкі, а перад вячэрай, не згаварваючыся, узялі ў губу для апетыту па сто грамаў кміннай.

Цяпер яны сядзелі на палубе і ў чаканні той хвіліны, калі трэба ісці да сну ці да бяссонніцы, абменьваліся думкамі і курылі. Сяргей Васільевіч паліў адну папяросу за другой, прагна зацягваючыся пякучым дымам. Іван Сцяпанавіч смактаў люльку. Адну высмактаў пасля снедання, другую — пасля абеду, а цяпер вось трымаў у зубах гэтую. Перад сном ён выкурыць яшчэ адну. Так — чатыры люлькі на дзень, не больш і не менш.

— Калі чалавеку за пяцьдзесят, ён не мае права не стрымліваць свае жаданні, — павучальным тонам знаўцы жыцця гаворыць Іван Сцяпанавіч.

Успомнілі зноў родныя мясціны, колішніх агульных знаёмых, у тым ліку дзівакаватага краўца Яўхіма, вядомага кожнаму аршанцу. Доўга здзіўляліся, як гэта не ведалі адзін аднаго ў Оршы.

Але пра што-б ні гаварылі Бурак і Сержантаў, думкі іх былі прыкаваны да неабсяжнай воднай роўнядзі, што ляжала на ўсе бакі ад парахода, і гаворка іх зноў хілілася да тэмы мора, канала, шлюзаў, гідрастанцый, — усяго таго, што ў гэткі кароткі прамежак часу стварыў савецкі чалавек сярод голага стэпу.

Іван Сцяпанавіч і Сяргей Васільевіч ехалі тут упершыню, і для іх усё было новае, цікавае, здзіўляючае.

— Гэта-ж падумаць толькі!.. Дваццаць два мільярды кубаметраў вады ўмясціла ў сябе гэтае вось мора! — захапляўся капітан Сержантаў. — Дваццаць два мільярды!

— Лічба ўнушальная, — згаджаўся Іван Сцяпанавіч.

І яны прыгадвалі ўсё — лічбы, падзеі, факты, якія мелі дачыненне да гісторыі будаўніцтва канала і ўсіх гідратэхнічных пабудоў, у захапленні часам не заўважаючы, што пачынаюць сям-там пакрысе перабольшваць ці нават проста фантазіраваць.

— Летась увосень тут, кажуць, такі штармяга разгуляўся, што куды там Чорнае мора! — сякануў паветра рукою Сержантаў.

— Было, было!.. — запэўніваў Іван Сцяпанавіч з такім выглядам, быццам на ўласныя вочы бачыў гэты незвычайны шторм.

Сяргей Васільевіч і Іван Сцяпанавіч ехалі ў Сталінград. У Сталінградзе яны таксама не былі раней, і сустрэчы з гэтым незвычайным горадам праглі як самай жаданай мэты. Чым меншы шлях заставаўся, тым больш выразна паўставалі ў думках векапомныя дні сорак другога года. І немагчыма было ўжо гаварыць аб чым-небудзь іншым.

Плёскаліся аб борт парахода зыбкія хвалі. Раскінуўшы свае велізарныя крыллі, лунаў над морам арол-сцяпняк. У высокім бясхмарным небе ўзвыў рэактыўны самалёт, — узвыў і сцішыўся, знік.

Іван Сцяпанавіч Бурак зірнуў угару:

— Вось і гэтыя нябесныя птахі для нас — пройдзены ўжо этап. Чым-жа яшчэ падзівуе нас нястрымны наш розум?

— Напэўна, шмат яшчэ чым, — пстрыкнуўшы партсігарам, сказаў Сержантаў. — Бо няма мяжы для чалавечых магчымасцей.

— Няма? Ну, гэта вы ўжо залішне хапілі.

— Ды не, сапраўды... Хіба-ж каму не ясна, што чалавек — наймагутнейшы творца.

— І ўсё-ж ёсць непераадольныя межы і для гэтага наймагутнейшага, як вы трапна заўважылі, творца.

— Пачакайце, пачакайце, — узгарэўся Сяргей Васільевіч і зноў сякануў паветра рукою. — Вашы словы...

— Не, не, — тонам, які не дапускаў пярэчанняў, перапыніў яго Іван Сцяпанавіч. — Вы-ж, паважаны мой зямляк, не будзеце, напэўна, адмаўляць народную мудрасць, якая сцвярджае: вышэй галавы не падскочыш. Заўважце: не падскочыш, і ўсё тут.

— Гэта не народная мудрасць. Гэта філасофія бюргераў.

— Прэтэнцыёзна, але непераканаўча. І таму, з вашага дазволу, я застаюся пры сваёй думцы.

Івана Сцяпанавіча нельга было назваць скептыкам ці Фамой няверным; хутчэй за ўсё, ён быў з тых людзей, якія, дайшоўшы ў сваіх разважаннях ці назіраннях да пэўнай думкі, не здольны былі ўжо ні адмовіцца ад яе, ні перамяніць яе на новую.

Капітан хацеў нешта сказаць, але Іван Сцяпанавіч зноў перапыніў яго.

— І колькі вы мне ні даказвайце, якое красамоўства ні пускайце ў ход, я з вамі не пагаджуся... Так, чалавек здатны шмат на што: ён можа павярнуць раку назад, перасунуць гару з месца на месца,

злётаць на Марс, вынайсці не толькі вадародную, але суперкіслародную ці якую там яшчэ бомбу, ён здольны нават, калі хочаце ведаць, зрабіць рай на зямлі,— так, ён здольны на ўсё гэта і шмат яшчэ на што, але вось, калі даходзіць справа да такой, скажам, рэчы, як перамагчы самога сябе...— вы мяне разумееце?..— вось тут і стаўляй кропку, бо як ні напружвайся, а сам цераз сябе не пераскочыш.

Відаць было, што капітана хоць і нервуюць, нават выводзяць з роўнавагі словы Бурака, але ён стрымлівае сябе.

Кінуўшы недакураную папяросу, капітан узяўся за другую. Памаўчаў крыху і раптам спакойна, без ранейшага запалу прамовіў:

— Хочаце, я раскажу вам адну гісторыю. Даўно гэта было, яшчэ ў час вайны. Але можа вам цікава будзе паслухаць. Яна якраз мае дачыненне да пытання аб тым, куды і як можа скочыць чалавек.

— Ну, ну,— Бурак паглядзеў на гадзіннік.— Час у нас яшчэ ёсць.



— Гісторыя гэтая такая, што пачынаць расказваць прыдзецца з сябе, хоць я тут, як кажуць, збоку прыпёку.

Дык вось.

Ваяваць я пачаў салдатам, у першы бой уступіў 26 чэрвеня сорак першага года, аднак да ліпеня сорак чацвертага ніводнага разу не быў паранены. Шанцавала, ці што?!.. Больш трох год песціў мяне, кажучы прыгожа, лёс. У якіх толькі абставінах ні быў, у якую завіруху ні трапляў, адусюль выходзіў без ніводнай драпіны. Затое-ж у той дзень, калі мы бралі Мінск, па мне так сцебанула, што прышоў у памяць я толькі праз некалькі дзён.

Памятаю: расплюшчыў вочы, гляджу — нада мною белая столь, а з сярэдзіны яе свісае электрычная лямпа, і гарыць яна да таго зырка, што вачам балюча. Але я не заплюшчваю іх, гляджу проста на святло і імкнуся прыгадаць, куды-ж гэта мяне кінула. Аж раптам чую: з правага боку, недзе зусім блізка, хтосьці застагнаў. Я паімкнуўся ўзняцца, аднак, ледзь толькі паварушыў рукою, як вострая боль так разанула па мне, што я зноў страціў прытомнасць.

Апрытомнеў другі раз напэўна таму, што нанова пачуў той-жа працяглы глухі стогн. Чалавек, які стагнаў, моцна заскрыгатаў зубамі, пасля пачаў выкрыкваць:

— Бі!.. Сячы!.. Бі!.. Сячы!..

Лежачы на спіне, я не бачыў таго, хто крычаў, ды і не адважваўся зірнуць на яго, бо ўжо ведаў: варта толькі паварушыцца, як зноў адчую нясцерпны боль у руцэ. Я ляжаў і прыслухоўваўся. У кожным выкрыку майго невядомага суседа было столькі заклікаючай сілы, што калі-б яны пачуліся на полі бою, то, напэўна, паднялі-б у атаку нават смяртэльна знясіленых, дайшоўшых да апошняй знямогі людзей і вялі-б уперад датуль, покі біліся-б сэрцы ў грудзях.

— Бі!.. Сячы!..— яшчэ раз крыкнуў ранейшы голас. А ў адказ пачуўся другі — ціхі і пяшчотны жаночы голас:

— Не трэба, Васілёчак... Родненькі, не трэба...

— Бі-і-і...— не крыкнуў, а ўжо толькі прахрыпеў чалавек і сціх.

Тады я зразумеў усё — і дзе знаходжуся, і што са мною. «Так, я ў шпіталі. І, вядома, паранены. Даваяваўся!..»

«Але куды-ж я паранены?— разважаю.— У руку? Мусіць, не толькі ў руку, бо шыю таксама не магу павярнуць — яна ўся забінтаваная».

— Сястрыца...— паціху клічу я.

— Што, саколік?— даносіцца да мяне той-жа самы ціхі, пяшчотны голас.— Апрытомнеў?

Нада мною нахіляецца твар немаладой ужо жанчыны. На галаве ў яе белая хусцінка, з-пад якой выбіваюцца густыя рыжаватыя валасы. На мяне пазіраюць блакітныя вочы, да таго-ж блакітныя, што я проста здзіўляюся, бо ніколі не бачыў такіх.

— Апрытомнеў?— яшчэ раз перапытала сястра.— Гэта Васілёк цябе растрывожыў. У яго гарачка.

Сястра паказала ў бок майго суседа. Блакітныя вочы яе неяк сцьмелі. З-пад левага павека выкацілася буйная, нібы кропля першага веснавога дажджу, сляза. Яна слізганула па носе жанчыны і ўпала мне на грудзі...

— Кепска яму?— шэптам запытаў я.

— Вельмі,— прызналася сястра і глыбока ўздыхнула.— Яго з падбітага танка выцягнулі... Жывога месца няма...

— Ушчэнт пакалечаны,— гледзячы некуды ўбок, але не туды, дзе ляжаў невядомы сусед, зноў загаварыла сястра.— І як пакутуе, родненькі... Ах, як пакутуе!.. Крый божа!..

Па голасу сястры, па яе вачах я зразумеў: дні майго суседа злічаны... Стала тужліва і маркотна на сэрцы.

Сястра расказала мне, што ўчора ў шпіталь прышло да Васіля Чумака — так звалі майго суседа — пісьмо. Доўга блукала яно, пакуль знайшло адрасата. Спярша пісьмо было паслана ў часць, дзе ваяваў Васіль, а ўжо адтуль пераслалі яго сюды. Яно было ад васілёвай маці. Страшэнную вестку паведамляла яна сыну. За сувязь з партызанамі фашысты спалілі ўсю вёску, ні двара не пакінулі. Голая пустэча засталася на тым месцы, дзе была некалі ледзь не самая буйная і прыгожая ва ўсім раёне вёска Лужкі. Учынілі гэтае злачынства гітлераўцы яшчэ ў сорак другім годзе, а як зруйнавалі Лужкі — абвясцілі на ўсю акругу, што яны забараняюць людзям тут болей сяліцца і будавацца. Быльнягом ды дзядоўнікам зараслі вуліцы Лужкоў... Уся васілёва радня загінула. Цудам выратавалася адна толькі маці. Яна доўга хавалася ў лесе, пакуль не натрапіла на партызанаў.

— А Васіль ведае пра гэта?— ціха спытаў я ў сястры.

— Не, мы не паказвалі яму пісьмо. Як прышло яно, то мы вырашылі: калі што прыемнае ў ім, добрае,— пакажам і прачытаем, а калі... Ну, прачыталі самі і... Ён у такім стане... Пісьмо даканае яго. Не, мы нічога не гаворым яму. Галоўны ўрач катэгарычна забараніў. Мы нават памінаць пра Лужкі баімся.

Васіль застагнаў. Сястра кінулася да яго.

— Васілёчак, родненькі... Ну што, што табе?..

Мне падумалася: канешне, Васілю ні ў якім разе не трэба гаварыць пра пісьмо, пра жудасны лёс яго Лужкоў. Вытрымаць такое будзе звыш яго сіл.

Раніцою ў палату прышоў урач. Гэта быў маленькі, сухарлявы і сівы, хоць яшчэ і не вельмі стары, чалавек. Ні вусоў, ні барады ў яго не было, затое на галаве дыбка стаяла цэлая капа валасоў,— белых, як снег. Ён падышоў да мяне бадзёрай, нейкай трапяткой хадою, узяў тэмпературны лісток, зірнуў на яго, хвіліну падумаў і нечакана сказаў:

— А ці хутка ў наш клуб пойдзем, га? Там-жа ў нас кожны дзень танцулькі. Ох, і хвацка выбраляюць хлопцы «Яблычка», каб вы толькі бачылі! І — смешна. Пантоплі-ж нашы шпітальныя для «Яблычка» не разлічваліся. Спадаюць з ног. Тады хлопцы — басаном. Смешна!

Я не чакаў такой гаворкі ад урача і не ведаў, што сказаць яму. А ён, выслухаўшы мой пульс, запытаў:

— Дык, значыцца, радавы Сержантаў? Так?

— Так...— нерашуча прамовіў я.

Урач утаропіўся ў мяне вачыма, быццам заўважыў на твары нешта вельмі благое, а сам мякка сказаў:

— Цікавае ў вас прозвішча.

Зноў нічога не адказаў я яму.

— А як-жа гэта будзе атрымлівацца, голуб мой, калі вы даслужыцеся да сержанта, га?— Урач усміхнуўся зрабіў рукой «пад казырок» і басам выдзьмуў з сябе: — Дазвольце звярнуцца, таварыш сержант Сержантаў?

Засмяяўшыся, ён прадаўжаў:

— Альбо, напрыклад, пакліча вас камандзір роты і пачне: «Гэта што за агіднасць такая, таварыш сержант Сержантаў!» Здорава, га? Ха-ха-ха!..

Мне і на самай справе стала смешна, і я ўсміхнуўся.

— Правільна!— ухваліў урач.— Смейцеся! Смех — гэта жыццё!

Ён пачаў гаварыць нешта сястры па-латыні,— мусіць, назначаў лякарствы. Потым, па-змоўніцку падмігнуўшы мне, накіраваўся ў другі канец палаты, і там зноў гучэў яго прыемны, мяккі бас:

— Смешна! Ха-ха-ха...

На другі дзень я пачуў, як мой сусед з правага боку, цяжка дыхаючы, сказаў:

— Адваяваўся Васіль Чумак...

Яму рабілася ўсё горш і горш. Толькі зрэдку прыходзіла да яго прытомнасць, і ў такія хвіліны ён спакойна, з пачуццём асуджанасці ў голасе, гаварыў аб сваім хуткім скананні.

Ён быў забінтаваны ўвесь. Бінты былі на галаве, на твары, на руках. Напэўна, і сапраўды на ім жывога месца не было...

— Адваяваўся...— яшчэ раз прашаптаў Васіль і праз некалькі хвілін дадаў: — Можа, заўтра...

Я скалануўся.

Цяжка, вельмі цяжка бачыць чалавека, які памірае...

— То і хай сабе...— пасля доўгай паўзы прахрыпеў Васіль.— Зрабіў нямала... Многа нават зрабіў... Усё, што трэба было, зрабіў... Болей і не трэба...

І вось надышла раніца наступнага дня. Я не спаў амаль усю ноч,— непакоілі рука і шыя,— аднак на світанні палягчэла, і я пачаў драмаць.

Раптам пачуў я, што дзверы ў нашу палату адчыняюцца, але адчыняюцца неяк асабліва асцярожна. Я расплюшчыў вочы. Бачу: у палату ўваходзіць невысокі чалавек у белым халаце, відавочна, вайсковы. За ім ідуць урач, сястра і яшчэ двое ці трое вайсковых, таксама ў халатах.

— Вось тут, таварыш генерал,— сказаў урач, звяртаючыся да чалавека, што ўвайшоў першым.

Генерал азірнуўся наўкол і нягучна, быццам просячы прабачэння за наведванне ў такі ранні час, прамовіў:

— Добры дзень, таварышы!

— Дзень добры... — пачуліся галасы ў адказ. Здаецца, толькі Васіль Чумак нічога не адказаў. Ён цяжка дыхаў, — значна цяжэй, чым звычайна.

Генерал падышоў да першага ложка, сеў на крэсла, якое стаяла побач, рупліва паправіў коўдру на хворым, запытаў:

— Даўно вы паранены, таварыш?

— Пад Мінскам, — адказаў той.

— Як вас лечаць?

— Добра. Ды толькі надта многа жалеза ўвагналі ў мяне фашысты...

— Вынуць, усё вынуць, — упэўнена прамовіў генерал і звярнуўся да ўрача: — Правільна?

— Абавязкова! — адказаў урач. — Нічога не пакінем!

Генерал памаўчаў нейкую хвіліну, аб нечым думаючы, потым запытаў:

— У вас будуць да мяне просьбы? Не саромейцеся, гаварыце.

— Дзякую, таварыш генерал. Дзякую. Мне добра.

— Жадаю вам хутчэй паправіцца. — Генерал узяў руку хворага, што ляжала паверх коўдры, у сваю руку і асцярожна паціснуў яе. — Папраўляйцеся, таварыш Саладоўнікаў.

«Адкуль гэта ён даведаўся прозвішча хворага?» — падумаў я.

А Саладоўнікаў, калі генерал назваў яго, раптам прыўзняўся на ложку і ўзрушана загаварыў:

— Дзякую вам... дзякую вам...

— Ляжыце, ляжыце! — захваляваўся генерал і, абняўшы Саладоўнікава за плечы, дапамог яму легчы.

Потым генерал некалькі хвілін гутарыў з малодшым сяржантам, які ляжаў ля акна. Генерал падрабязна распытваў яго аб сям'і, аб тым, у якім класе вучыцца яго дачка і якія ў яе адзнакі.

— Па рускай мове чатыры? Трэба, каб было пяць. Рускую мову трэба ведаць выдатна. Напішыце ёй аб гэтым, калі ласка.

І яшчэ шмат аб чым распытваў генерал малодшага сяржанта. А пад канец папрасіў напісаць яму, як сустрэнуць воіна на заводзе пасля дэмабілізацыі і як рабочыя дапамагаюць фронту.

— Адрас мой такі... — і генерал назваў нумар палявой пошты і сваё прозвішча.

— Абавязкова напішу! — сказаў малодшы сяржант і прыхінуўся шчакою да рукі генерала.

Так генерал абышоў усіх. Засталіся я і Васіль Чумак.

— Радавы Сяржантаў, — прадставіў мяне ўрач, калі генерал сеў каля майго ложка. — Марыць пра тое, каб даслужыцца да сяржанта. Хоча быць сяржантам Сяржантавым.

Генерал усміхнуўся. А я з дакорам падумаў: «Ат, і трэба-ж было ўплесціся яму!..»

— А мне здаецца, што таварыш Сяржантаў марыць пра тое, каб даслужыцца да палкоўніка, — усё яшчэ ўсміхаючыся, прамовіў генерал і павярнуўся да сястры, — ці да генерала. Як вы думаеце, — даслужыцца?

Сястра чамусьці пачырванела, на яе кірпатым носе ярка запалалі вяснушкі, якіх я раней не заўважаў.

— Бярыце вышэй, — сказала сястра пасля нядоўгага роздуму.

— А што? Сапраўды. Блаславім яго на маршала? — Генерал усміхнуўся яшчэ шырэй і звярнуўся да мяне: — Згодны?

Ніякаватасць маю нібы ветрам здзьмула.

— Згодзен! — засмяяўся я. — Давайце мне маршала!

Затым генерал падышоў да Чумака, сеў побач і некаторы час моўчкі пазіраў на хворага, быццам імкнуўся разгледзець схаваныя бінтамі рысы яго твару.

— Цяжка? — ціха запытаў генерал.

— Цяжка... — адказаў Чумак і ўздыхнуў. — Скančэнне маё прыходзіць, таварыш палкоўнік... выбачайце... таварыш генерал.

Тут я зразумеў, што генерал і салдат даўно знаёмы, што гэта не першая іх сустрэча. Мусіць, генерал быў камандзірам дывізіі, у якой служыў Чумак, і Васіль ведаў яго яшчэ тады, калі той быў палкоўнікам.

— Гэта вы дарэмна. Вам яшчэ трэба жыць. Доўга трэба жыць. Жыць і змагацца.

Голас генерала гучэў надзвычай ласкава. Быццам дбайны бацька размаўляў з адзіным сваім, бясконца дарагім сынам.

— Не ведаю... — прашаптаў Чумак.



## Учора і сёння сталіцы рэспублікі





Былая Губярнатарская вуліца. Цяпер тут шырокі бульвар, па абодвух баках якога бягуць заасфальтаваныя праезджыя часткі. У высокіх светлых будынках, створаных па адзінаму архітэктурнаму плану, жывуць сем'і працоўных. Гэта адна з лепшых вуліц сённешняга Мінска — Ленінская.

— Я ўпэўнены, урачы зробяць усё дзеля ўратавання вашага жыцця. А нашы ўрачы шмат на што здатныя. Цуды робяць.

Генерал нізка схіліўся да Чумака.

— Здаецца, вас завуць Васілём, таварыш Чумак?

— Так.

— У мяне сын таксама Васіль. Толькі не ў бацьку ўдаўся. У лётчыкі пайшоў.

— Танкістам быць лепш.

— Ну, гэта мы з вамі так лічым. А ў лётчыкаў наконт гэтага свае меркаванні.

— Вядома. А ў артылерыстаў свае... — Перадыхнуўшы, Васіль запытаў: — Наша дывізія... добра ваюе? Хлопцы нашы... добра лупцуюць гадаў?

— Здаецца, нядрэнна. Вярхоўны Галоўнакамандуючы абвясціў падзяку асабоваму саставу дывізіі за ўдзел у вызваленні Мінска. Лупцуем, як вы кажаце, і далупцуем!

Генерал нахіліўся яшчэ бліжэй да Васіля і пераконана загаварыў:

— Лужкі чакаюць вас, таварыш Чумак.

— Лужкі? — насцярожана перапытаў Васіль. — Яны вызвалены?

Я здрыгануўся. Пабялела з твару сястра. Пераступіў з нагі на нагу ўрач. У палаце стала ціха-ціха.

— Гітлераўцы зруйнавалі іх, ператварылі ў «мёртвую зону». Яны думалі, што вы ніколі не вернецеся ў Лужкі. Што-ж, гэта чарговы іх пралік. Вы вернецеся ў Лужкі, вы адбудуеце іх, і будуць яны яшчэ прыгажэйшыя, чымся былі даўней.

Ціха-ціха было ў палаце. У гэтай цішыні выразна было чутно дыханне Васіля. Мне здалося, што цяпер ён дыхае раўней.

— Адбудуеце? — Генерал глянуў проста ў вочы Васіля. Погляд у яго быў спакойны, цёплы.

— Зраблю. Адбудую... — выдыхнуў Чумак. І яшчэ раз паўтарыў: — Адбудую, таварыш генерал.

— Значыцца, дамовіліся. — Генерал нахіліўся да салдата і пацалаваў яго ў вусны. — Да пабачэння, таварыш Чумак. Перакананы, што пачую яшчэ пра вас і пра вашы справы. Да пабачэння.

Ён падняўся, паглядзеў на ўсіх нас, усміхнуўся сваёй лагоднай усмешкай.

— Жадаю ўсім вам самага найлепшага!

— Дзякуем, — у адзін голас адказалі мы.—І вам жадаем, таварыш генерал!

Капітан прыкурыў новую папяросу, зацягнуўся некалькі разоў узапар. Чуваць было, як пальцы яго рукі лёгка застукалі па калене.

— А Васіль што-ж? — нецярпліва запытаў Бурак.

— Дома. Старшынёй у Лужках працуе. Сёння я прачытаў у газеце, што яму Героя Сацыялістычнай Працы прысвоілі.

# Калі загарэліся АГНІ...

Тэкст А. АСІПЕНКІ.

Фота А. ДЗІТЛАВА.

За паласатым шлагбаумам пачынаецца станцыя: частыя перапляценні рэек, прывакзальныя пабудовы, доўгія саставы на пуцях, манеўровыя паравозы, а над усім гэтым прарэзлівыя гудкі, шыпенне пары, лязг буфераў, таропкі гоман людзей.

Орша.

Калі зімовы вячэрні змрок ахутаў дамы і прысады, над станцыяй і рабочым пасёлкам палыхнула зарава — загарэліся электрычныя агні: засвяціліся ў вышыні зялёныя і чырвоныя вочы семафораў, замільгацелі ліхтары стрэлачнікаў, разрэзалі цемень белыя прамені вакзальных пражэктараў. А ў пасёлку зазіхацелі агнямі вокны дамоў, засвяціліся матавыя шары вулічнага асвятлення. І неяк адразу стала па-святочнаму весела і ўрачыста, асабліва тут, ля пад'езда клуба аршанскіх чыгуначнікаў.

Ярка асветленае памяшканне клуба відаць здалёк, і да яго ідуць і ідуць чыгуначнікі: пажылыя — не спяшаючыся, памаленьку, а моладзь — з песнямі і жартамі. Каля дзвярэй клуба натоўп. У вестыбюлі таксама цесна і шумліва.



Прыгожа выконваюць «Татарскі танец» Валя Цімошчанка і Ліда Ганчарова.

Ідзе рэпетыцыя танцавальнага гуртка.



— З прыездам, Іван Пятровіч! — вітае пасля чарговага рэйса дзядзька-чыгуначнік.

— Любачка, абавязкова чакай! Адразу-ж, як скончыцца рэпетыцыя, зайду.

— Заб'ем «казла», Лёня?

— Хлопцы, хадзем на дыспут у бібліятэку!

— Давай, дружа, у шахматы згуляем!

— А ў нас новую песню развучваюць!

... Зверху плывуць звукі духавога аркестра. Аднекуль справа, з-за дзвярэй, чуюцца ўдары пругкага мяча. Клуб жыве прывычным, бурлівым жыццём.

Шмат энергіі, вынаходлівасці, выдумкі патрабуецца на тое, каб кожны наведвальнік знайшоў сабе занятак па душы. І кіраўніцтва клуба, яго совет дасягнулі ў гэтым немалых поспехаў. Тут ёсць усё для культурнага і вясёлага адпачынку. Хочаш, глядзі кіно, спектакль, займайся ў гуртках самадзейнасці, вучыся шыць, вышываць; гэта не прываблівае — да тваіх паслуг бібліятэка, тэхнічны кабінет, розныя гульні.

Аб'ектыў фотаапарата адлюстраваў на здымках адпачынак аршанскіх чыгуначнікаў у сваім клубе. Праўда, для таго, каб усё ахапіць, паглядзець, карэспандэнтам «Маладосці» спатрэбілася два вечары: у суботу і — у нядзелю.

У суботу ў клуб прыехалі госці — артысты тэатра імя Якуба Коласа са спектаклем «Выбачайце, калі ласка». Многія з чыгуначнікаў ужо чыталі п'есу А. Макаёнка і цяпер з нецярплівасцю чакаюць пачатку спектакля.

— Пастаноўка павінна быць цікавай, — гаворыць чарнавокая стройная дзяўчына. — Ды і артысты вунь якія вядомыя: Ільінскі, Звездачотаў, Бялінская!

Але пакуль што агні рампы патушаны. Прыходзіцца чакаць. Затое ў пакоі, дзе ідзе рэпетыцыя танцавальнага гуртка, светла. Кіраўнік гуртка Ніна Міхайлаўна Яскевіч развучвае з дзяўчатамі-гурткоўцамі танец «Бульба». Пакуль што не ўсё атрымоўваецца дасканала, няма зладжанасці, грацыі. Але на сцэну танцаўшчыцы заўсёды выходзяць з поспехам. Асабліва прыгожа выконваюць «Татарскі танец» Валя Цімошчанка і Ліда Ганчарова. Дзяўчаты ўжо не раз выступалі і ў сваім клубе і ў падшэфным калгасе. І фотаапарат адлюстраваў адзін з момантаў «Татарскага танца».

А тым часам загарэліся агні рампы. Спектакль пачаўся. На сцэне сумленныя совецкія людзі вядуць барацьбу з бюракратамі і падхалімамі. Вось адзін з герояў камедыі — прахадзімец Моцкін — спрабуе выкруціцца з «бяды». Гледачы ад душы смяюцца над гэтым авантурыстам. Гэты момант і паказаны на здымку.

— Абавязкова паглядзіце работу нашага драматычнага гуртка, — гаворыць нам дырэктар клуба П. Г. Шакуцін. — На мінулым аглядзе ён заняў другое месца ў Совецкім Саюзе.

... У нядзелю на сцэне па-гаспадарску хадзілі самадзейныя мастакі. Трэба паднавіць дэкарацыі да спектакля «На бойкім месцы» А. Остроў-



...ампы. Спектакль пачаўся.



Мастакі ўзяліся за работу.

ра О. Мікуліч дапамагаюць дзяўчатам выбраць ноты, песні.

У суседнім пакоі вісіць на сцяне звычайная класная дошка. На ёй — ноты. Тут займаецца гурток баяністаў, якім кіруе Георгі Жарабцоў. Памочнік машыніста Анатоль Шчэрба яшчэ два месяцы назад не ўмеў іграць на баяне. А вось цяпер — глядзіце!

У апаратнай, ці проста кінабудцы, ідзе падрыхтоўка да чарговага сеанса. Кінамеханік Васіль Андрэеў праглядае ленту, правярае апаратуру. Усё павінна быць спраўным, каб сеанс прайшоў без «аварыі». Быць кінамеханікам — мара многіх юнакоў. Таму дырэкцыя клуба вырашыла арганізаваць нешта накшталт гуртка. Некалькі чалавек навучаюцца тут дэманстрацыі фільмаў. Адзін з іх — грузчык аддзела рабочага забяспечання Міхаіл Малаховіч сфатаграфаваны разам з кінамеханікам Васілём Андрэевым.

Галя Верушкіна і Валя Казімірчук прышлі па музычную літаратуру.



чат у гэтай пірамідзе ўдзельнічае толькі Ніна Дуйнова, астатнія прысутнічаюць як гледачы.

Ёсць у клубе і такія пакоі, дзе стаіць цішыня, хоць там і знаходзяцца людзі. Ціха ў бібліятэцы, у чытальнай зале, у тэхнічным кабінеце. Сюды

Народны хор пад кіраўніцтвам Ольгі Данілаўны Мікуліч.





На занятках гуртка баяністаў.

прыходзяць тыя, хто хоча пачэрпнуць веды, хто эдпачывае за кнігай, за рашэннем складаных тэхнічных задач.

Амаль увесь першы пакой тэхнічнага кабінета займае макет чыгункі з аўтаблакіроўкай. У другім пакоі — мадэль паравоза ў разрэзе, схемы, карты, чарцяжы. У кутку — невялікі столік. За ім сядзіць загадчык тэхнічнага кабінета, інжынер-маёр руху Іван Аляксандравіч Берастаў. Да Івана Аляксандравіча заходзяць і моладзь і старыя, вопытныя чыгуначнікі, паплечнікі і таварышы па рабоце. У кожнага з іх у працэсе работы ўзнікае мноства пытанняў, і на кожнае ў



У тэхнічным кабінеце.

тэхнічным кабінеце знаходзіцца адказ. У той час, як наш фотакарэспандэнт зайшоў у тэхкабінет, Іван Аляксандравіч расказваў аб прынцыпе аўтаблакіроўкі аўтаматычную паравознага дэпо Уладзіміру Казлову і памочніку машыніста Міколаю Аўсіевічу.

У другім пакоі крыху пазней пачалася кансультацыя самастойна вывучаючых марксізмленінізм. За сталом — качагар дэпо Дзмітры Сакалоў, аператар аддзялення дарогі Валянціна Страхава, кіраўнік семінара прапагандыстаў Фелікс Цэхановіч. Загадчык бібліятэкі Антон Філіпавіч Караткевіч адказвае на пытанні прысутных.

Толькі к дванаццаці гадзінам ночы клуб угаманіўся. Пагаслі агні ў рабочых пакоях, і толькі ў кабінеце дырэктара яшчэ гарэла электрычная лямпачка. Пётр Грыгоравіч Шакуцін падводзіў вынікі работы за прайшоўшы тыдзень.

За тыдзень клуб наведала звыш дзесяці тысяч чалавек. Толькі ў самадзейнасці займаецца 278 чыгуначнікаў. А колькі людзей наведвае бібліятэку, чытальню, тэхнічны кабінет, кіно, спектаклі! Любяць чыгуначнікі свой клуб. За апошнія гады выраслі грамадскія кіраўнікі гурткоў, актыўныя ўдзельнікі клубнай самадзейнасці. Дзякуючы ім клуб сапраўды стаў месцам культурнага і вясёлага адпачынку працоўных.

Ідзе падрыхтоўка да чарговага сеанса.



Самыя цяжкія эцюды робяцца лёгка, спрытна.





**У чыгуначным клубе імя Кірава (ст. Орша) сям'я майстра вагоннага дэпо Мікалая Міхайлавіча Шчолакава актыўна ўдзельнічае ў мастацкай самадзейнасці: Мікалай Міхайлавіч і сын Леанід іграюць у духавым аркестры; маці, Соф'я Аляксееўна, пяе ў народным хоры; пяцігадовую Любачку пакуль што не бяруць ні ў адзін гурток, але яна — часты госць у дзіцячым пакоі клуба.** На здымку: **сям'я Шчолакавых у перапынку паміж рэпетыцыямі.**

Фото А. Дзітлава.





**У Беларускім мастацкім Інстытуце.**

**1. На факультэце жывапісу — студэнты І. Саковіч, Н. Залозны і Н. Казанскі за працай над партрэтам. 2. На скульптурным факультэце — група студэнтаў абмяркоўвае першую работу комсамольца А. Анікейчыка.** Злева направа: **А. Анікейчык, В. Апанько і І. Белановіч,**

Фота А. Дзітлава.

Ул. ДАДЗІОМАЎ

# Дэлегат з'езда

Нарыс

За акном падаюць сняжынкі. Праз шкло, тонка размаляванае дзівоснымі ўзорамі, відаць, як павольна цярушацца яны, асядаючы лёгкай ватай на галінках дрэў, усцілаючы зямлю іскрыстай беллю.

Пад карагод пушыстых сняжынак за акном неяк асабліва хораша думаецца.

Тацяна схіляецца над паперай, перачытвае напісанае. «Я працую звеннявой у калгасе «За ўладу Советаў» Гродзенскага раёна. Мы вырошчваем цукровыя буракі. Атрымалі па 350 цэнтнераў з гектара...»

Не, нешта не тое. Занадта афіцыйна, суха. І як яно ўсё-ж дзіўна выходзіць: у думках столькі сказаць хочацца, а вось напісаць ці сказаць на з'ездзе — дык слоў нехапае! Не, не мастак яна пісаць. Ды і прамоўца з яе не вельмі красамоўны. А можа, яно і лепш, што не красамоўны — няхай справа за цябе гаворыць. Але-ж і самой аб гэтай справе расказаць хочацца так, як думаеш. Яно, бясспрэчна, прыемна, калі цябе просяць у газеце сваімі думкамі падзяліцца або на нарадзе выступіць. Толькі дужа цяжкая такая праца. Здаецца, лягчэй рэкордны ўраджай вырасціць, чым расказаць аб гэтым. Ды яшчэ дзе прыдзецца расказваць — у Мінску! І з газеты напамінаюць: «Мы Вас вельмі просім, таварыш Хомбак, падрыхтаваць для нас артыкул»... Каб лягчэй пісаць было, пытанні далі. Пытанні простыя, толькі адказаць на іх складана:

«Чым знамянальны для вас 1953 год?..»

Хіба адкажаш адразу? Многім, вельмі многім знамянальны. Па-першае, у кандыдаты партыі прынялі. Па-другое, у роднай вёсцы пабудавалі самую буйную на Гродзеншчыне гідраэлектрастанцыю «Вайтаўшчызна». І стаіць яна побач з хатай Тацяны Хомбак. І гэта — гордасць Тацяны, яе радасць. Ну, і абавязкова трэба сказаць аб рэкордным ураджаі цукровых буракоў. Ён-жа таксама ў 1953 годзе атрыманы. А тут якраз і наступнае пытанне ўзнікае — як атрыманы такі высокі ўраджай? Што-ж, можна коратка сказаць: стараліся — вось і атрымалі. Толькі не абыйдзешся гэтымі словамі. Тут і пра бяссонныя ночы гаворку трэба весці і пра тое, як часам хвалявацца даводзілася.

А можа пачаць з таго, аб чым бацька часта гаворыць — аб дзецях былога пацынскага батрака Аляксея Хомбака. Бацька вельмі высока ставіць сваіх дзяцей. «Маіх дачок, кажа, ўсё наваколле комуністкамі называе».

...У старога Хомбака — чатыры дарослыя дачкі. Усе яны амаль у адзін і той-жа час у комсамол уступілі. У вёсцы яшчэ ніводнага комсамольца не было, а ў Хомбака чатыры дачкі — комсамолкі. Быў тады суровы час, пагражалі бандыты, розныя пісулькі падкідалі, а дочкі не спалохаліся. Нядаўна і сын Мікалай уступіў у комсамол, а самая меншая дачка — Валянціна — піонеркай стала. Толькі вось ён — Аляксей Іванавіч Хомбак і яго жонка — Малання Пятроўна — беспартыйнымі засталіся. Ды і яны ад лініі дзяцей не адыходзяць. Правільным жыццём дзеці ідуць, правільнай лініі і бацькі трымаюцца.

І як-жа яму не ганарыцца зараз сваімі дзецьмі, не радавацца іх лёсу! Дзве дачкі скончылі дзесяцігодку, працуюць настаўніцамі. Старэйшая, Ніна, у Гродна краўчыхай працуе. Тацяна пасля сямігодкі ў калгасе засталася, Мікалай хоча ў тэхнікум падацца, а самая малая — Валя — яшчэ блазнота, у чацверты клас толькі ходзіць, а таксама мару сваю мае. «Я, кажа, аграномам буду». Вось яны шляхі-дарогі!.. Новае жыццё, новыя дарогі!

Як тыя сняжынкі, круцяцца думкі-ўспаміны. Адзін толькі год, а колькі цікавых падзей. Калі ідзеш у новы год, усе падзеі асабліва выразна паўстаюць перад вачыма. Было многа добрага, хвалюючага. Было і дрэннае. Толькі ці варта на парозе новага года ўспамінаць аб ім? Так, варта. Каб у новым годзе не было таго, што перашкаджала дабівацца яшчэ лепшых вынікаў у працы.

Крыўд не шмат, але яны ёсць. І крыўды, як кажуць, не прыватнага характару, яны датычацца не яе асабіста, а агульнай справы.

Звяно вырасціла высокі ўраджай цукровых буракоў. 350 цэнтнераў з кожнага гектара. Кажуць, — найлепшы вынік у вобласці. Але-ж можна было-б вырасціць і больш высокі ўраджай. Для гэтага аднэй стараннасці аказалася мала — патрэбны веды. А іх яшчэ мала ў членаў звяна. Мог-бы дапамагчы аграном, але яго ў звяне амаль не бачылі. Адзіным настаўнікам і дарадчыкам быў брыгадзір Іосіф Станіслававіч Пацынкаў. У яго вялікая практыка, і да звяна ён з пашанай ставіцца. Але ім, апрача практыкі, навука пат-



Дэлегат XVIII з'езда комсамола Беларусі звеннявая калгаса «За ўладу Советаў» Гродзенскага раёна Тацяна Хомбак.

Фота В. Косціна.

рэбна. І тут без агранома не абыйсціся. У нашым калгасе няма свайго агранома. І той агранам, што зону МТС абслугоўвае, таксама да звяна не дайшоў. Бясспрэчна, быў-бы пабліzу ад звяна агранам, хіба-ж яны далі-б пад буракі больш угнаенняў, чым патрэбна? Не ведалі, хацелі лепей зрабіць. На тым участку бацвінне буяла — сэрца радавалася, а корань вырвалі — слёзы ледзь утрымалі. Сапсавалі буракі. Добра, участак невялікі быў. Што і казаць — трэба вучыцца, але-ж трэба, каб і нехта вучыў. Зараз партыя ў вёску накіроўвае спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Яна, Тацяна Хомбак, ад усёй душы радуецца гэтаму.

Тацяна абавязкова раскажа аб гэтым у Мінску. Ну, а наконт спрэчак, то тут ужо нічога крыўднага няма. Былі спрэчкі ў гэтым годзе, будуць і ў новым. Без іх нельга, яны справе дапамагаюць.

Асабліва запомнілася спрэчка з Яўгеніяй Хомбак. Яны не родзічы. У вёсцы Пацынкі многа Пацынкавых, многа Хомбакаў.

У гэтым годзе Тацяна сказала сваім сяброўкам:

— Будзем здзельна працаваць — кожная участак атрымае. Адказнасць павялічыцца, зацікаўленасць...

Усе пятнаццаць членаў звяна згадзіліся, а вось шаснаццатая — Яўгенія Хомбак — адмовілася браць участак.

— А мне гуртам весялей рабіць, — гарэзліва ўсміхнулася Яўгенія.

— Не рабіць, а гультайнічаць весялей, — адказала Тацяна.

Дзяўчаты падтрымалі звеннявую. Яўгенія-ж вырашыла настаяць на сваім.

— Ну што-ж, калі табе не сорамна быць госцяй у звяне—будзь, — сказала ёй звеннявая і сама пачала даглядаць участак Яўгеніі Хомбак. Свой і яе.

Яўгенію ніхто не дакараў, ніхто не абражаў. У дружным і працавітым звяне яна ў хуткім часе пачала выглядаць дзівакавата. Яўгенія сама папрасіла, каб ёй вызначылі ўчастак. Хутка Тацяна пачала ставіць яе ў прыклад іншым членам звяна.

Успомніўся выпадак з Агатай Салей. У час уборкі звяно Тацяны Хомбак дапамагала калгаснікам убіраць жыта. Агата Салей на сваім буракаводчым участку працавала нядрэнна, а вось жыта ўбіраць ленавалася. Нехта з комсамольцаў прыкмеціў, як яна адлежвалася ў цяньку. Праз дзень у калгаснай насценнай газеце, якую выпускаюць комсамольцы, з'явілася карыкатура на Агату. Жанчына ўзлавалася. Прыбегла да Тацяны.

— Загадай, каб знялі! Колькі жыву, у такі сорам ніхто не ўводзіў.

— Якое я маю права загадваць?—паціснула плячыма Тацяна.

— Хіба не ты наша звеннявая? Павінна-ж ты за сваіх людзей стаяць.

— Я і стаю. Толькі-ж, цётка Агата, супраць праўды ісці несумленна. Вас правільна пакрытыкавалі.

Тацяна адпаведны вывад зрабіла. Як член комсамольскага камітэта, яна ўзняла пытанне аб рабоце насценнай газеты.

— Бачыце, як падзейнічала заметка на цётку Агату!.. Трэба нам наладзіць рэгулярны выпуск газеты.

У рэдкалегію абралі лепшых комсамольцаў: Івана Краўцэвіча, Марыю Кумко, Уладзіміра Кумко. І газета пачала выходзіць рэгулярна.

Многа, вельмі многа было цікавага ў 1953 годзе. Але самае радаснае, самае хвалюючае—вынікі гэтага года. Не толькі яе звяно—увесь калгас вырасціў ураджаі, значна лепшыя, чым у папярэднія гады. А якім багатым робіцца працадзень! У мінулым годзе на кожны працадзень было выдана па тры кілограмы хлеба, а ў гэтым годзе толькі авансам выдана па рублю грашыма і па два з палавінай кілограмы хлеба. Яна, Тацяна, за высокія ўраджаі буракоў яшчэ атрымае дадаткова пудоў 20 цукру.

Гэта было ў 1953 годзе.

А што будзе ў 1954 годзе? Трэба-ж і аб гэтым сказаць.

Будзе яшчэ лепш! Ва ўсіх хатах калгаснікаў, на жывёлагадоўчых фермах зазіхаць электрычнае святло. Энергія міжкалгаснай гідраэлектрастанцыі «Вайтаўшчызна» прывядзе ў рух матары, дазволіць механізаваць усе працаёмкія працэсы. Калгас зробіць вялікі крок наперад. Ну, а яна, Тацяна Хомбак, будзе ўдзельнічаць у рабоце XVIII з'езда комсамола Беларусі, а ўвосень парадуе свой калгас яшчэ больш высокім ураджаем цукровых буракоў.

**Калгас «За ўладу Советаў» Гродзенскага раёна.**

# Пераклічка сяброў

Станіслаў НЭЯМАН
Чэхаславацкая Рэспубліка

## ПАРТБІЛЕТ

Ля сэрца самага, са мной заўсёды,
Білет партыйны, слаўны сябра мой.
У ім — абавязак, сіла, ўзнагарода,
У ім — будучынь радзімы дарагой,
Што па шляху не знае перашкодаў.

... Трапіла дзяўчына ў рукі банды
злой,
Толькі не сказала катам ані слова.
Юнакі-героі смела ішлі ў бой
За жыццё людзей, за лад народны
новы, —
Вось якія людзі ў Партыі маёй!

А як, сябры, мне расказаць аб справах
Таварышаў, якія ля станкоў
У Готвальдаве, Празе, Браціславе
Шлях паказалі для сваіх сяброў
Да нашай маладой працоўнай славы?!

Вугаль, што здабыты ў шахтах пад
зямлёй,
Сілаю становіцца для нас жывою.
Нормы перакрытыя. Хвілі ні адной

Не губляюць нашы людзі ў забоях, —
Вось якое племя ў Партыі маёй!

Нясу цябе, як самае святое, —
Праслаўлены на цэлы белы свет,
Адзначаны Звяздою Залатою,
Мой спадарожнік да вялікіх мэт!

І тысячы таварышаў са мною
Цябе ля сэрца носяць, партбілет.

Пераклаў Мікола ГАМОЛКА.

Марыя БАНУШ
Румынская Народная Рэспубліка

## ЗА ЗЯЛЁНЫМ СТАЛОМ

За зялёным сталом дзень і ноч па
чарзе
Пра смерць і жыццё спрэчка ідзе.

Маці ў сяле, адыходзячы спаць,
Малога сынка пачынае купаць.

Тым, хто за смерць, яна кажа:
«Мой плод —
Вось:
Вочы, як слівы, вусны — мёд.

Вось ён, маленькі мой цёплы сын...
Што учыніць вы жадалі-б над ім?»

Голас жыцця, гэта голас той,
Што шчыра гаворыць усёй душой.

Гаворыць народ: «Агляніся кругом:
Нам уночы спакойна, хораша днём,

Работа ёсць, агонь гарыць.
Мора, горы, дарог не злічыць...»

Над мірным жыллём, над мірным агнём
Кружыць праклятае груганнё.

Яно пагражае: «Загасім агонь,
Хай будзе камсенне, попел, стогн.

Няхай наладзяць крывавы бал
Зграі банкіраў, зграі мянял.

Няхай рассцелецца чорны дым
Над полем нямым, над полем сляпым.

Хай смерці паходні на ветры гараць,
Хай цьмянага золата груды ляжаць».

І чуюць іх карканне хвалі ракі,
Сцяжыны, што ўдалеч імкнуць, і
шляхі.

І ў мірныя сёлы прыносяць яны
Страшную вестку: чакайце вайны!

Як веснія воды у нетры зямлі —
Гнеў і нянавісць у сэрцы ўвайшлі:

«Мы вам не мяса, нас нельга пажраць:

Усім, хто за смерць, гэта трэба
знаць!
Замоўкні, прагнае груганнё,
Мы бачым усё, мы бачым усё!

Ваша дыханне — горш, як чума...
Для смерці сыноў не дадзім, няма!

Лагер мацнее наш з году на год.
У дружбе клянецца народу народ!

А гнеў нашых сэрцаў, нібы акіян, —
Мір не парушыш,
чорны груган!»

Пераклаў Сяргей ДЗЯРГАЙ.

Георгі МАЙАРЭСКУ
Румынская Народная Рэспубліка

## НАПЯРЭДАДНІ

Мільгала ярка вока маяка,
У бязмежныя ўглядаючыся далі.
А бераг спаў, цямнелі грэбні скал,
І чайкі над вадою не ўзляталі.

Усё мацней гудзеў марскі прастор,
З дна ракушкі ўздымаліся вадою.
Салёны вецер дзьмуў у твар з-за гор.
І пахла рыбай і травой сырою.

Здалося мора мне у гэты час
Магутнейшымі волата грудзямі,
Які ў сталёвых путах быў не раз
І разарваў іх мужнымі рукамі.

І я адчуў усёй сваёй душой,
Як тут пакутуюць без працы воды,
Пачуў іх плач аб мары векавой
І стогн у зайздрасці перад прыродай.

Пачуў я звон разбітых ланцугоў
Пры ўдарах гулкіх аб крутыя скалы.
А хвалі ў бераг біліся ізноў,
Схаваная ў іх сіла бушавала.

Я ўдаль глядзеў і ўбачыў — сталі ў рад
Гіганты, перамогшыя стыхію,
І шлюць камунам мноства тона-ват
У зззянні гідрастанцыі марскія.

Пераклаў Пятро ПРЫХОДЗЬКА.

Іштван ПОЛГАР
Венгерская Народная Рэспубліка

## ЖЫВУ Ў СВАЁЙ АЙЧЫНЕ

Проста паўз бераг віецца сцяжына,
Пахне ўчарашнім дажджом у кустах.
Вяжа хаду нам ліпучая гліна,
Толькі дарэмна, мы пройдзем свой
шлях.

Вось рыбалоў. Павязло рыбалову.
Рад ён, не можа ўсмешку стрымаць,
Рад, нібы хлопец дзявочаму слову,
Рыбам, якія, як срэбра, блішчаць.

Вось шчупака выбірае ён з сеці.
Тлустыя карпы ляжаць перад ім.

З веснай раллі патыхаючы, вецер
Сцеле па беразе трактарны дым.

У рыбака, ў селяніна на тварах,
І за блакітнаю хваляй ракі,
Там, дзе клубіцца над глебаю пара,
І на ўскраінах гарадскіх,

Гэтыя ўсмешкі ў палях, на заводах —
Скрозь зацвітаюць у нашых краях.
Я над ракою праходжу і ў водах
Адлюстравалася ўсмешка мая.

Заўтра, як сёння, — усё наша навечна!
Вось я нарэшце ў айчыне сваёй!
Сонца, што ў хмарах хавалася
стрэчных,
Зноў заблішчэла над роднай зямлёй.

Наша! Сваё! — паўтараю я словы.
Радасць усюды, у справах любых,
Нават у тым, што рука рыбалова
Рыбін з сяцей дастае залатых.

Пераклаў Сяргей ДЗЯРГАЙ.

Іван СКАЛА
Чэхаславацкая Рэспубліка

## ЖАЎРАНАК

Мой дух узносіш ты падчас
над далеччу вякоў бяскрайняй, —
не падлічыць мне, колькі раз
я з небам прагнуў зліцца тайна,

каб зоры, чарада аблок
ў палёце мне сябрамі сталі,
каб ззяў вясёлкаю радок,
прад словам хмары адступалі.

Але каля вяршынь крутых
сачыў я за табой з трывогай:
з нябёс дамоў ці знойдзеш ты
з маёю музаю дарогу,

пад крыллем ці не прамільгнуць
палі, дзе ў марах усё — аб хлебе,
ці срэбрам спеў на баразну
пральецца, ззяючы ў небе!

Ты асвятляў і высь і даль,
радзімы песенны крышталь,
крыло аб сонца ты паліў,
ляцеў, як камень, да зямлі.

Зямля — аб ёй як завядзеш
гаворку, бачыш сёлы, горы,

там промняў бляск ў вачах людзей,
там трактар вышаў на прасторы.

Там песню мілую цыкад
нагадвае мне рытм дынама.
Пачуць я з тысяч вуснаў рад:
— Сягоння шчасце дружыць з намі!

Я песню весняй пекнаты
пявучай картаю раскіну,
я радасць дзён нясу, як ты,
пакуль не рынешся у гліну.

Пераклаў Алесь АСТАПЕНКА.

Антанас ПАКАЛЬНІС

# Успаміны



Мал. В. Ціхановіча

Жыў-быў чалавек па прозвішчу Таушкуціс *. Жыў і жыў-бы сабе. Нічога і не здарылася-б. Але вось прыстала да чалавека хвароба — захварэў ён успамінамі. Прывялі яго калгаснікі ў амбулаторыю — вылечыць. Няўжо-ж дапусцяць сябры, каб член іх арцелі так проста і памёр ад успамінаў? Убачыўшы хворага, медыцына збянтэжылася: вы толькі падумайце, такую хваробу ніякімі інструментамі не выявіш! Прышлося звярнуцца да сметонаўскай медыцыны: знайшліся жаласлівыя кабеты, якія з дапамогай зёлак, нашэптванняў і абкурванняў самога чорта перахітрыць могуць.

Нічога не дапамагло. Відаць, у Таушкуціса ўсяліўся бывалы, цывілізаваны чорт. Кажуць, гэтага чорта амерыканскія двуногія жукі з Каларадо прывезлі.

Цяжка дакладна сказаць, як там была справа. Але Таушкуціс хварэў і трызніў. Толькі сядуць, бывала, калгаснікі адпачыць, не паспеюць і адной зацяжкі зрабіць, а Таушкуціс ужо ўздыхае, адкашліваецца і пачынае:

— Вось раней бывала...

— ...пойла кулака Шэшкуса нажарэшся... — перабіваюць яго калгаснікі.

А Таушкуціс кулака Шэшкуса, як знарок, забыў. Толькі махне рукой і зноў за сваё:

— Вось няма больш цяпер такога тытуню... А коні якія бывалі... як узарэш зямлю, бывала... А сала, сала, калі-б толькі вы бачылі! Кнігі, навука... Раней і без іх жылі... Дактары... Толькі новыя хваробы выдумляюць...

Невядома, якую хваробу ў Таушкуціса выдумалі дактары, але яго памяць пачала так цудоўна працаваць, столькі «добрага» выцягнула яна з мінулага, што ён і сам патануў у гэтым «дабры». Словам, адкаціўся ён год на дзесяць назад і грымнуўся вобземлю.

Устаў Таушкуціс, агледзеўся, — а ён, аказваецца, дома! Светла стала ў яго вачах, нават сэрца ад радасці падскочыла. Уся яго страчаная маёмасць перад вачыма: і старая хібарка, як курыца на яйках, стаіць, і зямлі кавалак, абгароджаны калючым дротам, і гнеды ў стойле зубы скаліць, і ўсё былое жыццё, як на далоні!.. А Таушкуціс — уладар усяго гэтага багацця... Запрог ён гнедага і арэ. Але ў каня галава варыць. Вось ён спыніўся пасярод баразны і думае, вырашае пытанні жыўёлагадоўлі. Так ужо здаралася з гнедым з самай яго маладосці. Як толькі нехапае ў Таушкуціса корму, ён ужо філасофствуе: працаваць ці не працаваць? А Таушкуціс яго, па ўсіх сметонаўскіх агранамічных правілах, пугай. Толькі на гэты раз і пуга не дапамагла. Гнеды, відаць, усур'ёз задумаў кінуць работу. Лёг на баразну і выцягнуў ногі. Таушкуціс тут канчаткова апусціў-бы рукі, але яго выручыла вострая памяць. Ён успомніў, што ў маёнтку Бурбы ёсць МТС. Дагаворчык — і будзе трактар!

У той-жа час апынуўся Таушкуціс у маёнтку. Смелы, горды — з дырэктарам-жа МТС Свілюкасам яны некалі разам канавы ў кулакоў капалі. Таушкуціс загадзя ведаў, што скажа Свілюкас. «Чаго марудзіш, даўно дагавор трэба-б падпісаць». «Колькі ўжо тут маёй зямлі ёсць... Сам спраўлюся, думаў, толькі вось...» — адкажа яму Таушкуціс.

Але тут адбыўся цуд. Сам пан Бурба сустрэў Таушкуціса на прыступках былога палаца. Але адкуль-жа ён тут? Ужо-ж даўно ён адсюль выбраўся як мае быць... Тым не менш, насупраць Таушкуціса ва ўсёй сваёй панскай велічы стаяў Бурба. Уся смеласць пакінула Таушкуціса, і ён убачыў, што камечыць у руках шапку.

— І, пан Таушкуціс! Даўненька не бачыліся, — зарохкаў Бурба. — Што скажаш, пан Таушкуціс? Даўжок прынёс, ці яшчэ пазычыць хочаш?..

Залыпаў вачыма Таушкуціс, глянуў на свае латкі, праз якія прасвечвала голае цела. Разгубіўся зусім.

— Я нічога не кажу супраць, паночку... аддам. Толькі вось, — развёў ён рукамі, — я думаў, што тут-бы трактарам...

— А, «думаў»! Індык таксама думаў, думаў ды здох! — зароў Бурба. — Каб мне да панядзелка былі грошы! А калі не — пашлю сабак ганяць!

* Таушкуціс — пустабрэх (літоўск.).

## Учора і сёння сталіцы рэспублікі

Трамваі, аўтобусы, тралейбусы, таксі, вялікая колькасць грузавых і легкавых аўтамашын складаюць сучасны транспарт горада. Беззваротна адыйшлі ў нябыт біржа рамізнікаў, конка.







Іван МУРАВЕЙКА

## Садоўнік

Расчынена акно. Знадворку вішні
Заглядваюць з цікаўнасцю ў пакой.
Там гаспадар іх, комсамолец Міша,
Расказвае гасцям пра вопыт свой.

Гарыць раса на гронках вінаграда,
Асветленая электраагнём.
Відаць, чытаць даклады не аматар
Наш малады садоўнік-аграном.

Збіваецца часамі, чырванее,
У запісы заглядвае яшчэ.
Яму лягчэй было ў аранжарэі
Без сну дзяжурыць некалькі начэй.

Было лягчэй да непагоды бурнай
Паўднёвую расліну прывучаць,
Чымся аб гэтым, ды яшчэ з трыбуны,
У руках з канспектам лекцыю чытаць.

Спалохаўся Таушкуціс. Адчуў, што канец яму прышоў. Але тут зноў выратавала памяць. Каб ён, гэты Бурба, скрозь зямлю праваліўся! Забыў ён, відаць, што цяпер совецкая ўлада. Не, хвігу ён атрымае, а не грошы!

І тут-жа Таушкуціс злажыў у кішэні камбінацыю з трох пальцаў.

Але раптам, пад уплывам таямнічых сіл, ён адчуў, што сядзіць на парозе сваёй хібаркі. Што гэта, на самай справе, з ім адбываецца? І куды ён засунуў папяросы? Толькі што ў калгасе папяросы курыў, а тут — ні крупінкі тытуню.

— Баба! — крыкнуў ён. — Куды тытунь мой падзела?

— Які тытунь? — здзівілася жонка. — Апошняе бадылле, што ад Шэшкуса прынёс, яшчэ на тым тыдні скурыў...

— Адкуль ты гэтага Шэшкуса выцягнула? — вылупіў вочы Таушкуціс. — Я...

Але тут Таушкуціс аж рот разявіў ад здзіўлення, убачыўшы побач з сабою кулака Шэшкуса.

— Што-ж гэта ты лынды б'еш, пан Таушкуціс? — соладка ўсміхнуўся кулак. — А калі-ж да мяне? За насенне... памятаеш? Дзянёк-другі трэба было-б...

— Адчапіся ты ад мяне! Дзявятую скуру садраць з мяне хочаш! — раззлаваўся Таушкуціс.

А Шэшкус усё ўсміхаецца.

— Як хочаш, пан Таушкуціс! — з пагрозаю прамовіў ён. — Я магу і судом...

— Можаш, можаш! — прадаўжаў кіпець Таушкуціс. — Мы яшчэ паглядзім! Не тыя часы, пан Шэшкус!

З тым пан Таушкуціс і пан Шэшкус і развіталіся. Але Таушкуціс разззлаваўся. Што гэта тут робіцца? Хіба яго ўлады ўжо няма? Бурба і Шэшкус за горла хапаюць!

Ад хвалявання Таушкуціс узяў ды захварэў.

— У амбулаторыю! — загадаў ён жонцы. — А то яшчэ, чаго добрага, раней свайго часу памру.

— Бачыш, пан які знайшоўся! — ні з таго, ні з сяго пачала пасмейвацца з яго жонка. — А адзе-ж у цябе грошы? А конь дзе? Амбулаторыя-ж за трыццаць вёрст.

Тут Таушкуціс назваў жонку курыцай і іншымі ўсялякімі іменамі. Хіба яна не ведае, што амбулаторыя калгаса і доктар знаходзяцца ў лепшым на вёсцы доме? Устаў Таушкуціс, выйшаў з хаты, але хутка вярнуўся. Перш за ўсё ён не знайшоў амбулаторыі. «Куды-ж яна падзелася?» — з жалем падумаў ён.

— А дзеці дзе? У школе? — агледзеўшыся, спытаў Таушкуціс жонку.

— Яшчэ што! Сёння толькі нарадзіўся? У кулакоў служаць.

«Не, гэта не парадак», — вырашыў Таушкуціс.

І сабраўся Таушкуціс у раён. Задасць ён лазню кулакам, ой, задасць! Але ў час успомніў, што не лішне было-б пад'есці. Згаладаўся — быка з'еў-бы. А жонка, і вокам не міргнуўшы, падала на стол міску нейкага баршчу і спакойна сабе вышла. Тут у Таушкуціса цярплівасць лопнула. Што гэта такое? Як-жа гэта так? З глузду яна з'ехала, ці што? Не! Так у калгасе Таушкуціс не еў. Там і свіней такою ядою не кормяць. Над ім проста здзекуюцца. Падавайце яму хутчэй сала, а не — дык ён сябе пакажа!

Але зубы яму паказала яго ўласная памяць. Успомніў ён, якую пашану аказваў салу, калі сядзеў на сваім агароджаным кавалачку зямлі. Возьме, бывала, лустачку хлеба, пакладзе на яго шкварку і есць. Хлеб есць, а сала толькі нюхае і пальцам яго патрошку далей адсоўвае. Тым і сыты быў.

— Падай мне новыя боты, — рыхтуючыся ў дарогу, сказаў Таушкуціс.

— А дзе я іх вазьму? — здзівілася жонка. — Драўляныя хадакі ёсць, у іх і абувайся.

Прымірыўся Таушкуціс са сваім лёсам і пайшоў праўду шукаць.

Такая ўжо доля была ў яго: жонка толькі гора растраўляла.

— Знойдзеш праўду, як-жа! Цяпер праўда толькі ў паноў! — дапякала яна.

— І знайду! — у Таушкуцісу прачнуўся калгаснік.

Па дарозе Таушкуціс вырашыў заглянуць у чытальню, якая размяшчалася ў памяшканні вучылішча. Па навінах засумаваў. А можа і на самай справе часы Бурбы і Шэшкуса вярнуліся? Радыё і газеты не схлусяць.

Але што за д'ябал! Няма чытальні. Былі чытальня і вучылішча і няма іх. Ці не спіць Таушкуціс? Не, не спіць. Абедзьве палавіны дома тут. У адной з іх потныя людзі ачкі на засаленых картах падлічваюць, а ў другой — іншая самадзейнасць разгарнулася.

Толькі і чуваць:

— Заткніся, смаркач!

— Сам заткніся, а не — дык стукну!..

— Зараз вусы павыдзіраю!

Добра, што хоць сусед Бурокас сустрэўся. Але і той ва ўсе бакі хістаецца і цалавацца лезе.

— Куды-ж, Адомас, вучылішча перавялі? — пытаецца ўстрывожаны Таушкуціс.

— Што? Чысцілішча? Дык ты, значыцца, з кляндзамі заадно хочаш? А мы... мы абодва ўжо намечаны ў пекла,—дастае скамечаную газету Бурокас. — Вольных месц колькі хочаш, колькі душа пажадае... Вось! — палец Адомаса паказвае на аб'явы пра таргі.

— Але мы... — запярэчыў Таушкуціс.

— Так, так, ты гаспадар і я гаспадар... богу пірагі пячы будзем.

З п'яным размова кароткая. Таушкуціс непрыкметна ўцёк ад яго. Таушкуціс не быў-бы Таушкуцісам, калі-б адразу каму-небудзь паверыў. Тым больш, што ён усё мацней адчувае сябе калгаснікам. Яго зямля і хата прымыкаюць да зямлі і хат калгаса. У Таушкуціса няма аднаасобнай гаспадаркі. Не, не! Ніякая пагроза продажу з малатка яму не пагражае.

Але тут Таушкуціс адчуў, што ўсё-такі ён сэрцам трымаецца за сваю маленькую гаспадарку... Ой, як нядобра! Прэч яе з сэрца, гэтую гаспадарку, хутчэй прыляпіць яе да калгаса! А самому ў раён!

Але Таушкуцісу не шанцуе! Паслаў-жа чорт яму насустрач прыстава! Хоць, сказаць па праўдзе, на прыстава яму цяпер напляваць з высокага дрэва. Нават шапкі ён перад гэтым панам не скінуў. Больш таго — засмяяўся яму ў вочы. А прыстаў, прызнацца, ветлівы быў. Прывітаўся, падаў сваю ўсемагутную руку і сказаў:

— Не ўмееш, пан Таушкуціс, гаспадарыць. Звязаўся са мной, а я чалавек строгі. Куды думаеш цяпер падацца? Можа да мяне, у маёнтак, га?

— Праваліся ты са сваім маёнткам, вось што! — адрэзаў Таушкуціс, не адчуваючы перад прыставам ніякага страху. (Справа ў тым, што раён ужо быў недалёка.) І ў сваю чаргу абурыўся: «Ну і ўлада! Яшчэ дапускаюць, каб такія па дарогах цягаліся!»

Нарэшце Таушкуціс дайшоў да мястэчка. Невыказнае шчасце перапоўніла яго сэрца, калі ён падыйшоў да выканкома. І невыказнае расчараванне сустрэла яго, калі ён не знайшоў на месцы гэтай установы.

Тады ён звярнуўся да двух грамадзян у капелюшах і з ліловымі насамі.

— Прабачце, панове, можа вы ведаеце, куды пераехаў выканком?

А паны пераглянуліся:

— Як многа ўсё-такі цяпер шалёных.

Таушкуціс паспрабаваў без пабочнай дапамогі адшукаць уладу і зусім нечакана знайшоў яе. Проста ілбом упёрся ён у надпіс на дзвярах: «Валасны старшына». Не звярнуўшы ўвагі на тое, калі аб'яўлены прыёмныя гадзіны, Таушкуціс уваліўся ў дом. У прыёмнай — ні душы. Толькі раптам за дзвярыма завыў воўк. Адзін раз завыў, другі...

Таушкуціс пастукаў, увайшоў і... аслупянеў на месцы. За сталом сядзеў пан Бурба, а на канапе, разваліўшыся, амаль ляжаў начальнік паліцэйскага ўчастка Шэшкус.

— А, пан Таушкуціс! — абодва начальнікі адначасова выказалі здзіўленне. — Далікатна, вельмі далікатна з вашага боку! Калі-ж прадаеце сваю гаспадарку?

І тут зноў завыў воўк. Таушкуціс убачыў, што гэта пазяхае Бурба, але страх ад гэтага не ўбавіўся. Таушкуціс кінуўся бегчы. Выбег на двор — глядзіць, — ідзе насустрач старшыня калгаса Клімас.

— Ратуй, Клімас, ратуй! — кінуўся да яго Таушкуціс. — Улада панская вярнулася.

— Адкуль? Якая ўлада? Ты трызніш, — суха адказаў Клімас.

— Сам ты трызніш, — разгарачыўся Таушкуціс. — У валасці Бурба з Шэшкусам сядзяць, а ты не бачыш... І калгаса больш няма...

— А табе так ужо гэты калгас і трэба? Ты-ж сам хацеў з Бурбой справы завесці, — старшыня ніколькі не спачуваў Таушкуцісу ў яго няшчасці.

— Што ты? Апамятайся!.. Хіба я што-небудзь гаварыў? — апраўдваўся Таушкуціс.

— Не, ты нічога не гаварыў. Толькі ўспамінаў кожную хвіліну: «Вось раней бывала»...

Тут у Таушкуціса нібы памяць адабрала. Ён пачаў адмаўляцца.

— Забыў, — кажа ён. — Усё забыў і ўспамінаць не хачу.

— Шкада, вельмі шкада, — заўважыў Клімас. — А такая цудоўная памяць у цябе была!..

Калі старшыня вымавіў гэтыя словы, Таушкуціс не вытрымаў і... прачнуўся.

Ён кажа, што такія жахі яму больш не сняцца.

*Пераклад з літоўскай мовы.*



Ул. НЯДЗВЕДСКІ

## Дома

Мой верш прачытаўшы, махнеш ты рукой:
— Усё па шаблону, вядома, —
Паездзіў па свеце лірычны герой,
І вось ён вярнуўся дадому.

Магчыма і гэтак, ды толькі мяне
Не крыўдзі, мой сябра, дарэмна:
У доме дзіцячым я кожнай сцяне
Складаць абавязан паэмы.

Настануць канікулы — зноўку я тут,
Хіба-ж абмінуць яго можна!
Да хлопцаў я ноччу з вакзала іду,
І кожны уступіць мне ложак.

І лепей нідзе, вам па праўдзе скажу,
Чым тут, не пасплю я з дарогі,
Хоць коўдрай кароткай накрыты ляжу
І з ложка тырчаць мае ногі.

Уранку-ж спяшаю усіх прывітаць
Маіх пабрацімаў і сёстраў,
І кожны з іх хоча што-небудзь спытаць,
А ўсіх чалавек дзевяноста!

Мяне выхавальніца — гордасць мая —
Сустрэне і шчыра абдыме:
— Прыехаў!.. — і будзе мінуту стаяць,
Глядзець, як на роднага сына.

Сустрэне дырэктар. Мяне ён цяпер
За сталага лічыць мужчыну:
— Хачу у паход па раёну цябе
Паслаць з піонерскай дружынай.

Я крочу ў паход між лясоў і палёў,
За мною-ж у гальштуках алых
Пад горн піонерскі дзяцінства маё
Ідзе і не хоча прывалу.

## Мая радасць

Мая радасць ліствою
Не апала увосень,
Над сцяжынкай глухою
Не панікла калоссем.

Маю радасць зімою
Не засыпалі сцюжы.
Мая радасць са мною,
Хоць і сумны я, — дружыць.

У дзетдоме пад Пінскам,
Дзе я рос выхаванцам,
З ёю — сведкай дзяцінства —
Зноў прышлося спаткацца.

Ля кастроў яна ўлетку
Тут звініць вечарамі,
Як са мной, у разведку
Зноў ідзе з хлапчукамі.

З імі крочыць у школу,
Заціхае за партай,
У сям'і, у комсамола
Набіраецца гарту.

Да маіх пабрацімаў
Мяне кліча на лета,
А як цяжка ісці мне, —
Мяне кліча да мэты.

## Тут вучуся

Дзе ты, мужны салдат,
Што прайшоў праз цяжар
І ля родных прысад
Выцер хлопчыку твар?

Дзе настаўнік сівы?
Не забыць мне ніяк,
Як з кішэняў маіх
Ты вытрэсваў табак!

З успамінам стаю...
Каб сюды вы прышлі —
З вамі-б радасць сваю
Сёння я раздзяліў.

Родны-б свой інстытут
Паказаць вас павёў:
— Тут вучуся, расту
Паміж слаўных сяброў.

Тут, як рэчкі вясной,
Калідоры шумяць,
Тут з тугою касой
Ходзіць песня мая.

# НОВЫЯ КНІГІ

## Апавяданні Івана Шамякіна

Іван Шамякін у новым зборніку «Апавяданні», які вышаў нядаўна ў Дзяржаўным вучэбна-педагагічным выдавецтве БССР, паказвае высокародныя пачуцці, маральныя якасці і багацце духоўнага свету радавых савецкіх людзей, іх перавагу над людзьмі капіталістычнага свету, стварае вобразы прадстаўнікоў прагрэсіўных сіл, якія змагаюцца ў зарубежных краінах супраць падпальшчыкаў новай вайны, за мір і дэмакратыю.

Адкрываецца зборнік апавяданнем «Наташа», у якім пісьменнік паказвае веліч маральнага вобліку і гераічныя справы савецкай моладзі. Наташы нехапала тры месяцы да пятнаццаці год, і сакратар калгаснай комсамольскай арганізацыі адхіліў яе заяву аб прыёме ў комсамол. Калі-ж пачалася вайна, дзяўчына ўносіць свой уклад ва ўсенародную барацьбу з ворагам. На словы маці: «Якая ты комсамолка? Цябе-ж не прынялі яшчэ», Наташа адказвае: «Дарма, усёадно я комсамолка». Сваёй настойлівасцю і баявымі справамі Наташа заслужыла ганаровае званне члена Ленінскага комсамола, і комсамольская арганізацыя партызанскага атрада прымае яе ў свае рады.

Удачай пісьменніка з'яўляецца апавяданне «У снежнай пустыні», у якім паказана непахісная воля савецкага чалавека-воіна да перамогі, яго патрыятызм, загартаванасць характару, пачуццё ўзаемадапамогі. Лётчыкі Вася і Волкаў пасля адной з баявых аперацый пацярпелі аварыю. Перанёсшы цяжкія выпрабаванні ў тылу ворага, яны вяртаюцца зноў у строй, каб з новай энергіяй і сіламі весці барацьбу.

Як-бы працягам паказу вялікага сэрца і высакароднай душы савецкага чалавека з'яўляецца апавяданне «Далёкая камандыроўка». І. Шамякін у вобразе інжынера Ярохіна, які па службовых справах трапіў у Канаду, паказвае маральную перавагу савецкага чалавека над людзьмі, душа і пачуцці якіх знявечаны доларамі. Савецкі інжынер, трапіўшы, як лётчыкі Вася і Волкаў, у цяжкае становішча, поўны аптымізма, ён вынослівы і чалавечны. Ярохін з пагардай і нянавісцю адхіляе прапанову англійскага лорда прадаць ежу, якую інжынер аддае дзіцяці. Савецкі чалавек працягвае руку брацкай салідарнасці і дапамогі чалавеку працы — пілоту Джэку Брайду.

Добра раскрывае Шамякін у апавяданні «Хлопчык з-за акіяна» хвалёную заакіянскую «дэмакратыю», расісцкую нянавісць чалавека да чалавека іншага колеру скуры. Цяжкі і пакутлівы лёс выпаў на долю негрыцянскага хлопчыка Нора: бацьку яго забілі белыя, неўзабаве памерла маці. Выратаваў асірацелага хлопчыка ад галоднай смерці матрос Джо, які ўзяў




яго на параход. Так Нор трапіў у Расію. Тут ён знайшоў чулыя адносіны і ўвагу да чалавека.

Цікавую і актуальную тэму падымае Шамякін у апавяданні «Дзве сілы». Стары французскі рабочы Жан Ружэ, парываючы з соцыялістычнай партыяй, уліваецца ў магутнае рэчышча прагрэсіўных сіл — прыхільнікаў міру. Пісьменнік пераканаўча паказвае дзве процілеглыя сілы, якія вядуць барацьбу ў буржуазнай Францыі, — сілу міру і прагрэса і сілу вайны і капітала.

Новы зборнік апавяданняў І. Шамякіна—цікавая кніга, яна з прыхільнасцю будзе сустрэта чытачом.

С. АЛЕКСАНДРОВІЧ.

## Учора і сёння СТАЛІЦЫ РЭСПУБЛІКІ

Цэнтральны сквер горада. Нямецка-фашысцкія захопнікі дашчэнту разбурылі гэты раён Мінска. Цяпер наўкол сквера ўзнік цэлы комплекс прыгожых грамадскіх і жылых будынкаў. Вось яны — пабудаваныя на вуліцы Энгельса з заходняга боку сквера.







# Літаратурныя пароды

Тэкст Янкі БРЫЛЯ. Сяброўскія шаржы А. ВОЛКАВА.




У падручніках, дзіцячых часопісах часта з'яўляюцца ілюстрацыі на зададую тэму: «Раскажыце, што вы бачыце на гэтым малюнку». Перад намі здымак «Заяц захварэў». ...І вось як напісалі-б некаторыя пісьменнікі пра тое, што паказана на гэтым фота.



Эдзі АГНЯЦВЕТ

**ЗВАННЕ ГОРДАЕ — УРАЧ!**

Мы у школу не пайшлі,
Мы гульню сабе знайшлі.
Вельмі падабаецца
Палячыць нам заяца.
Зайка, міленькі, не плач, —
Званне гордае — урач!



Іван ГРАМОВІЧ

**ПАКУЛЬ БАЦЬКІ ПРАЦУЮЦЬ**

У тую раніцу інжынер Прынцыповіч, качагар Кішэня і арматуршчык Дзірдак пайшлі на працу, як звычайна, у час, дакладна. Дакладнасць і дысцыплінаванасць у кожнай галіне чалавечай дзейнасці з'яўляецца неад'емнай умовай нашага руху наперад, да ясных вышыняў! Маці дзяцей, двух дзяўчынак і хлопчыка, была таксама на працы. Алена Сямёнаўна Прынцыповіч, урач-тэрапеўт, работніца з даволі вялікім стажам і вопытам, пільна стаяла ад ранля на варце здароўя нашых савецкіх людзей. Цётка Ганна Кішэня, прыбіральшчыца, якраз закончыла падмятаць калідор і кабінеты адной з адказных устаноў. Яна рухалася паволі, твар яе адлюстроўваў цвёрдую ўпэўненасць у тым, што кожная праца, хоць і нязначная на першы погляд, упрыгожвае савецкага чалавека. Жонка кучаравага баяніста арматуршчыка стаханаўца Алёшкі Дзірдака, чырвонашчокая, вясёлая Волька ішла з палівачкай па адной з цяпліцаў плодагародніннай станцыі і палівала гуркі ды іншую гародніну, заліваючыся маладой задорнай песняй. Усё на шчасце, на радасць нашага савецкага чалавека!

Пакуль бацькі працавалі, кожны па-свойму сціраючы мяжу паміж разумовай і фізічнай працай, дзеці іх, сабраўшыся ў кватэры інжынера Прынцыповіча, аб'едналыя адной ідэяй, пачалі гульню.

Сёння гэта было лячэнне зайца, якога прынесла сюды Зіначка Дзірдак, адзіная пакуль што дачушка арматуршчыка стаханаўца Алёшкі Дзірдака і яго працавітай агародніцы Волькі Дзірдак. Доктарам з агульнай згоды стала дачка качагара Кішэні і жонкі яго, знатнай прыбіральшчыцы цёткі Ганны, удумлівая і дасціпная Марылька Кішэня, якую, бясспрэчна, чакае цудоўная будучыня. Сын інжынера Прынцыповіча і доктара тэрапеўта Алены Сямёнаўны Прынцыповіч, рухавы Генька Прынцыповіч у матроскім касцюме, карыстаючыся тым, што хатняя работніца Прынцыповічаў, Аўдоцця Самасад, пайшла на Камароўскі рынак, па мяса, дастаў усе неабходныя для гульні прылады, і аперацыя пачалася...



Анатоль ВЯЛЮГІН

**БАЛАДА ПРА НЯВЫЛЕЧАНАГА ЗАЙЦА**

Дзяцінства, дзяцінства маё залатое!
Шчыглы, краснапёркі, грыбы!
Вясна прамінула, улетку затое
Пад хмары ляцяць галубы!
За імі мае белакрылыя мары —
У дзён незабыўных часы!
Міжвольна успомніш з ўсмешкай на твары
Заечыя вушы, вусы...
Мы зайца лячылі, мы верылі ў тое,
Пад грыўку пастрыгшы чубы...
Дзяцінства, дзяцінства маё залатое!..
Шчыглы, краснапёркі, грыбы!



Уладзімір КАРПАУ

**ЦУДОЎНАЯ ВЫПАДКОВАСЦЬ**

Урывак з рамана

Наша цудоўная рэчаіснасць, калі толькі па-сапраўднаму ўглядзецца ў яе з усёй пільнасцю і патрабавальнасцю мастака слова ці пэндзля, прадстаўляе нам незлічоныя магчымасці цудоўных выпадковасцей, якія невыказна хораша мяжуюцца з тым, што з самых даўніх часоў чалавецтва прызвычаілася называць паэзіяй жыцця, той паэзіяй, якая толькі ў наш час, праламляючыся праз прызму інтэлектуальнай сутнасці нашага сучасніка — барацьбіта за светлую будучыню народаў — набыла сваё поўнакроўнае гучанне.

Калі праходзіш па праспектах і плошчах нашай непаўторнай у сваёй прыгажосці сталіцы і ўглядаешся ў архітэктурны твар ансамбляў, нялёгка ўявіць, што адбываецца ў кожнай з гэтых светлых кватэр, якія задумы, пачуцці і ўзлёты творчай фантазіі складаюць той комплекс чалавечых адчуванняў, які звычайна завецца жыццём.

Аўтар гэтых радкоў не мог, напрыклад, уявіць, што ён сустрэне ў кватэры аднаго з галоўных архітэктараў горада, калі ён падымаўся, пакуль што без ліфта, на восьмы паверх новага дома, думаючы, у якім ракурсе падаць творчы воблік свайго героя. Тое, што ён убачыў, у поўнай меры адлюстроўваецца вышэй пададзеным малюнкам. Малюнак гэты — жывая сцэнка нашай цудоўнай сапраўднасці... і г. д. і г. д.



Алесь РЫЛЬКО

**ЗАЙЧЫК**

Фельетоністая навела

У Манькі валасы беленькія-беленькія, як лён-даўгунец, а вочкі сіненькія-сіненькія і вялізныя, як неба. Вочкі разумныя, дапытлівыя. Напэўна, калі Манька вырасце, дык будзе знатным урачом.

— Давайце палечым майго зайчыка! — праззвінела яна сваім сярбрыстым галасочкам. — У яго баліць жывоцік. Ён вельмі многа наеўся капусты.

— Дарваўся, зараза! — сказаў Алёшка, папраўляючы каўнер сваёй матроскі. — Ну, лажыся!

— Асцярожна, Алёша! — спаважна сказала спакойная, апранутая ў белы чысты халацік Леначка. — Яму гэтак больна. Ён хворанькі.

Ды Алёшка быў повен сіл жыцця, яму хацелася дзейнічаць, тварыць, разбураць. І не дачакаўшыся, пакуль звычайны плюшавы зайка паварушыць сваімі валасянымі вусамі, Алёшка-марак пляснуў яго рукой па жываце і з юнацкім задорам выгукнуў:

— Г-гых, бомба! Ляжы, каб ты здох!



Аляксей КУЛАКОЎСКІ

**НОВАЯ СУСТРЭЧА**

Гэтую гісторыю расказаў нам дзед Працька, знатны садоўнік калгаса «Слуцкая бэра», чалавек паважаны ва ўсёй акаліцы, з якім мы некалькі гадоў таму назад

вярталіся з адной адказнай камандыроўкі.

Вяртаўся, дакладней кажучы, я адзін, а дзед Процька падвозіў мяне на бліжэйшую чыгуначную станцыю, да якой ад нашага калгаса было тады прыблізна дзвесце восемдзесят кіламетраў. Бясспрэчна, што і мне і дзеду Процьку значна зручней было-б пераадольваць гэтую адлегласць у купэ пасажырскага цягніка, або ў кабіне адной з калгасных аўтамашын, але навокал было бабіна лета, нейкая млява-цягучая цішыня і па-восеньскаму цьмяная яснасць, якая і мяне і дзеда Процьку настройвала на спакойны і мудры тон.

Сыты конік бег рупліва, памахваючы коратка падстрыжаным хвастом, хоць мух у гэтую пару года стала ўжо значна менш, чым у касавіцу ці ў жніво. Колы прыемна грукаталі па роўнай, добра дагледжанай дарозе. І ў задку воза, дзе сядзеў я, і ў перадку яго, дзе прыкурчыўся з пугай дзед Процька, прыемна пахла канюшыннай атавай. Стары расказаў мне шмат цікавых і па-сапраўднаму павучальных гісторый, адну з якіх я палічыў неабходным перадаць чытачу.

Мы ўжо набліжаліся да Мінска, ужо відаць былі дымы яго каміноў, рыштаванні і краны новабудоўляў, калі дзед Процька павярнуўся да мяне і, паказаўшы пугаўём на дарагія сэрцу абрысы нашай сталіцы, усміхнуўся ў сівую бараду і сказаў:

— Вы вось жывяцё ў горадзе, а ўсяго, што там робіцца, вядома, не чулі. Ды гэта і зразумела. Жыццё наша ступіла далёка наперад, і не кожны з вашага брата-літаратара, каб ён быў і нямаведама які аператыўны, не здолее, вядома, убачыць усё адразу.

Дзед загадкава ўсміхнуўся.

— Цяпер і дзеці гуляюць не так, як калісьці. Навука і тэхніка цвёрда ўвайшлі ў іх побыт...

І ён расказаў мне з уласцівым яму гумарам, як дзве гарадскія дзяўчынкі, Валька і Прузынка, і доктараў сынок Адамка лячылі свайго хворага зайца.



**Адам РУСАК**

**ПЕСНЯ ПРА ШЭРАГА ЗАЙКУ**

Словы і музыка народныя.

**Нікаму так не прышлося**
**Як зайчыку ў жыцці, —**
**Палажылі на стале**
**І сталі лячыці.** } 2 разы.

**Ой лячылі, мы лячылі**
**Шэранькага зайку!**
**Нясі, міленькі, сюды**
**Сваю балалайку.** } 2 разы.

**Нясі, міленькі, заграй**
**Новенькую песню!**
**Вушкі, заенька, заткні, —**
**Перапонка трэсне!** 2 разы.



**Яны рыхтуюць навагодняе пісьмо сваім сябрам у Варшаву.**
Злева направа: **студэнты аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ Павел Ткачоў, Іосіф Хаўратовіч і Яўген Крыскавец.**

Фота А. Дзітлава.

## Пісьмы дружбы

Гэтыя пісьмы нельга чытаць без хвалявання. Прышлі яны з розных краін. На канвертах — паштовыя штэмпелі Кітая, Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі. Многія пісьмы напісаны на рускай мове: аўтары іх любяць і старанна вывучаюць мову краіны перамогшага сацыялізма.

У кожным пісьме, якое-б мы ні ўзялі, — словы, што ідуць ад шчырага сэрца. «На прыкладах гераічнай савецкай моладзі мы вучымся жыць і працаваць. Неўміручыя подзвігі камсамольцаў Краснадона, Зоі Касмадзем'янскай, Аляксандра Матросава будуць вечна жыць у нашых сэрцах». Гэта — з пісьма студэнткі механічнага тэхнікума балгарскага горада Горна-Араховіца Сцефаніды Дачавай, якое прыслала яна ў Крычаўскае педагагічнае вучылішча.

Цікавая гісторыя, з якой пачалася сяброўская перапіска беларускіх і балгарскіх студэнтаў.

Неяк у «Комсомольской правде» была змешчана карэспандэнцыя аб вопыце работы камсамольскай арганізацыі Крычаўскага педвучылішча. Гэтую карэспандэнцыю прачыталі ў Балгарыі. І неўзабаве ў Крычаў пачалі прыходзіць пісьмы. Яны ішлі з розных гарадоў Балгарыі. Пісалі студэнты, гімназісты, маладыя рабочыя. Яны расказвалі сваім незнаёмым, але блізкім беларускім сябрам аб свабоднай працы, аб жыцці і вучобе, аб поспехах у будаўніцтве сацыялізма. З гордасцю паведамлялі маладыя балгарскія патрыёты аб тым, што яны настойліва вывучаюць рускую мову, чытаюць творы савецкіх пісьменнікаў.

Вядома, гэтыя пісьмы не засталіся без адказу. Крычаўскія студэнты ахвотна пачалі пісаць сваім замежным сябрам. Яны расказваюць балгарскай моладзі аб барацьбе савецкай моладзі за мір ва ўсім свеце, аб удзеле ў будаўніцтве камунізма, аб сваім шчаслівым і радасным жыцці.

Два гады таму назад студэнты Віцебскага педагагічнага інстытута вырашылі павіншаваць студэнтаў адной з вышэйшых навучальных устаноў Кітая — Пекінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута з гадавінай абвяшчэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. Дакладнага адраса віцебскія студэнты не ведалі і таму паслалі пісьмо ў рэдакцыю часопіса «Народны Кітай».

Пісьмо знайшло адрасатаў. Праз некаторы час прышоў адказ. Студэнты Пекінскага педагагічнага інстытута пісалі сваім беларускім сябрам: «Дарагія таварышы! Мы былі вельмі рады вашаму пісьму. Яно прышло да нас напярэдадні гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Ад усёй душы віншуем вас з вялікім святам. Тут, у Пекіне, праведзены ўрачыстыя пасяджэнні і мітынгі ў гонар гэтай знамянальнай даты».

Так нарадзілася пісьмовая сувязь паміж студэнтамі двух свабодных народаў. Яна не спыняецца і дагэтуль. Часта з Віцебска ў Пекін і ў Віцебск з Пекіна ідуць тэлеграмы — сябры віншуюць адзін аднаго з новым годам, з першамайскімі і кастрычніцкімі святамі, з пачаткам чарговага навучальнага года.

Трывалая дружба існуе паміж студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна і студэнтамі Варшаўскага ўніверсітэта. Яны таксама часта абменьваюцца пісьмамі, расказваюць аб сваім жыцці і вучобе, пасылаюць кнігі, часопісы, газеты.

З вучнямі школ краін народнай дэмакратыі перапісваюцца многія беларускія школьнікі. Шмат пісем напісалі і атрымалі ў адказ вучні першай, другой, дваццаць чацвёртай і іншых школ Мінска. Выказваючы агульную думку моладзі і дзяцей розных народаў, сафійская гімназістка Аляксандра Георгіева піша ў сваім пісьме:

«Сіла наша — у еднасці. Дык няхай-жа мацнеюць еднасць, дружба і брацтва моладзі ўсяго свету!»

**М. БАРЫСАЎ.**

## Тэхнікумы мяняюць адрасы

Да апошняга часу ўся пошта для Мінскага фінансавага тэхнікума дастаўлялася на вуліцу Ціміразева. Гэта вуліца знаходзіцца на самай ускраіне горада па дарозе на Ждановічы.

У першыя дні снежня ўся карэспандэнцыя пайшла па новаму адрасу: праспект імя Сталіна, 107. Тэхнікум перасяліўся ў цэнтр. Са старога аднапавярховага будынка ён перайшоў у новы, значна большы і прыгажэйшы. Цэнтральны партал яго ўпрыгожаны калонамі. У будынку больш пяцідзесяці пакояў. Студэнты атрымалі ўсё, што трэба для вучобы, фізічнай загартоўкі і адпачынку.

Вучэбны корпус фінансавага тэхнікума мае дваццаць аудыторый. На першым паверсе — вялікая сталовая, на другім — актавая зала на 250 месц з двума кінаапаратамі, на трэцім — адна з лепшых у Мінску спартыўных залаў плошчай больш 300 квадратных метраў. Асобнае памяшканне выдзелена для бібліятэкі, кнігасховішча і чытальнай залы. Побач з будынкам па вуліцы Паліграфістаў узведзены трохпавярховы інтэрнат.

У гэтыя дні больш юнакоў і дзяўчат бывае і на трамвайным прыпынку ля Першай клінічнай бальніцы. Усе яны накіроўваюцца на Падлесную вуліцу, якая прылягае да праспекта імя Сталіна. Тут узвышаецца новы вялікі трохпавярховы будынак, які выцягнуўся ўздоўж вуліцы на 115 метраў. Над уваходам вісіць шыльда: «Мінскі электратэхнікум сувязі».

Як будынак, так і сама навучальная ўстанова зусім новыя. Тэхнікум стварыўся ў выніку раздзялення Пінскага політэхнікума сувязі на два. У Мінску праведзены першы набор навучаючыхся. На першы курс залічана 210 выпускнікоў сярэдніх школ рэспублікі. Яны набудуць спецыяльнасці тэхнікаў-сувязістаў у галіне радыёфікацыі, тэлеграфіі, тэлефаніі, паштовай справы і лінейна-кабельных збудаванняў.

Каб добра весці падрыхтоўку спецыялістаў пяці галін сувязі, патрабаваўся не толькі вялікі вучэбны корпус. Яго трэба было выдатна абсталяваць. Тут ёсць памяшканні для вучэбна-лабараторных заняткаў, вялікія вучэбна-вытворчыя майстэрні, шматлікія кабінеты і лабараторыі.

Вялікія сродкі на абсталяванне тэхнікума былі выдаткаваны ў 1953 годзе. Больш чатырох мільёнаў рублёў асігнуецца на 1954 год. Будзе закончана будаўніцтва вялікага інтэрната на 600 месц і кватэр для выкладчыкаў. У інтэрнаце будуць памяшканні для сталовай, пральні, магазіна, шавецкай і кравецкай майстэрняў.

Непадалёку ад гэтых навучальных устаноў будуюцца вялікія карпусы для энерга- і радыётэхнікумаў. Ужо зараз у энергатэхнікуме на трох аддзяленнях займаецца 600 чалавек. Пасля ўводу ў дзеянне новага будынка адкрыюцца два новыя аддзяленні, якія будуць рыхтаваць цеплатэхнікаў і энергетыкаў для прамысловасці. Новы будынак, які ўзводзіцца на праспекце імя Сталіна, будзе гатовы ў гэтым годзе. На яго будаўніцтва выдаткоўваецца пяць мільёнаў рублёў. У старым памяшканні застануцца майстэрні і цеплатэхнічная лабараторыя.

Пазней усіх тут пачалося будаўніцтва радыётэхнікума — зусім новай для Мінска навучальнай установы. Ён будзе рыхтаваць кадры для радыёпрамысловасці. Яго вучэбны корпус ні ў чым не ўступіць будынкам астатніх тэхнікумаў, якія ўзведзены непадалёку.

Варашылаўскі раён Мінска становіцца раёнам тэхнікумаў і ВНУ. Цяпер тут знаходзіцца чатыры вышэйшых і пяць сярэдніх навучальных устаноў.

**С. ВЯРШЫНІН.**



**Новы будынак Мінскага фінансавага тэхнікума.**

Фота Л. Мазалева.



**У дзіцячым садзе № 15 Беларускай чыгункі. Зараз да касцюма Снягурачкі будзе прышпілена апошняя блёстка, і Снягурачка разам са сваімі вясёлымі сябрамі — Клоунам і Зайчыкам — выбяжыць у залу да ёлкі, дзе сабраліся дзеці.**

Фота А. Дзітлава.

